—Людзьмі звацца!
Янка Купала

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
15
СТУДЗЕНЯ
1993 г.
№ 3 (3673)

ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.

КОШТ 3 рублі





# ГЭТАЯ СЦІПЛАЯ... ЯРКАЯ БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА!

Цудоўны падарунак да новага года і сабе, і нашаму мастацтву зрабіў вучань рэспубліканскага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі Юрый Бліноў. Ён выйшаў пераможцам І Міжнароднага конкурсу імя С. Пракоф'ева, што адбыўся ў Пецярбурзе. Найтруднае выпрабаванне доўжылася два з паловаю тыдні, удзельнічалі ў ім больш за паўсотню маладых піяністаў з Амерыкі, Азіі, Еўропы. Беларускі музыкант заняў 1-е месца, атрымаў грашовую прэмію Петрасавета і прыз за лепшае выкананне Канцэрта С. Пракоф'ева. Акцыянернае таварыства «Госко» заключыла з Ю. Бліновым кантракт на 4 гады, абавязуецца ладзіць ягоныя канцэрты па расійскіх гарадах. А член конкурснага журы вядомы амерыканскі музыкант Д. Полак абяцаў запіс на кампакт-дыск. Толькі ў Мінску лаўрэата сустрэлі вельмі ціха, і пакуль невядома, калі можна будзе паслухаць яго сольны канцэрт.

Творчасць С. Пракоф'ева — гэта яго, Юры Блінова, стыхія. Свет сучаснай музыкі — ягоны свет. Нездарма такі строгі аўтар, як Г. Вагнер, менавіта Ю. Блінову даверыў першае выкананне свайго Трэцяга фартэпіяннага канцэрта. Дый сам Юра сур'ёзна займаецца кампазіцыяй, хоць ставіцца да ўласных опусаў даволі прыдзірліва.

Ён гадаваўся не ў музычнай сям'і: бацькі — інжынеры. Ды ў Драгічыне, адкуль родам Юра, бабуля некалі спявала яму калыханкі, а дзед — народныя песні.... А яшчэ гэтаму сціпламу далікатнаму хлопцу пашчасціла займацца ў аднаго з лепшых нашых педагогаў — Людмілы Сяргееўны Шаламенцавай.

Беларуская фартэпіянная школа апошнім часам паказвае яркія вынікі не толькі на прасторы СНД, пацясніўшы заўсёднага лідэра — школу маскоўскую. Вось і на пракоф'еўскім не прабіліся масквічы на вядучыя пазіцыі, і зрабілася нарэшце відавочным, што жыла-сілкавалася былая сталіца за кошт тых, хто ехаў да яе. Сёння, мінаючы колішняе «сіта Масквы», Беларусь напрасткі ўдзельнічае ў міжнародных конкурсах і выглядае адметна. Асабліва радуе, што мы не сманкуем плады працы прыезджых педагогаў, — сталеюць традыцыі самастойнай беларускай фартэпіяннай школы. Згадайма, што педагог Юры Л. Шаламенцава і сама скончыла гэтую школу (цяперашні ліцэй) і што яе прафесар у кансерваторыі М. Бергер таксама быў тутэйшай гадоўлі... Можам, значыць?

Аляксандр МІЛЬТО.

Фота В. МАЙСЯЕНКА.

З ПОШТЫ ТЫДНЯ

# І сумна, і крыўдна...

З НОВЫМ ГОДАМ!

Счастья и радости в Новом году!

Перад новым годам амаль усе беларускія газеты паведамілі пра тое, што Міністэрства сувязі рэспублікі падрыхтавала нам, жыхарам Беларусі, прыемны падарунак: на пошце можна набыць беларускія віншавальныя паштоўкі і, такім чынам, жыхары Беларусі маюць мажлівасць адправіць сваім родным ды знаёмым у блізкім і далёкім замежжы арыгінальныя беларускія сувеніры. «Ну дык файна!» — падумаў я і набыў цэлы стос святочных паштовак, якія й адправіў па адрасах сваіх знаёмых ды сяброў у Расіі. Хай падзівяцца ды пазайздросцяць нашым, такім прыгожым, навагоднім прывітанням.

Але як жа я быў здзіўлены, калі ў першыя навагоднія дні пачаў даставаць са сваёй паштовай скрыні адну за другой такія ж самыя паштоўкі, якія я адправіў у Расію. І атрымаў я іх... з Расіі. Толькі замест беларускага «З Новым годам!» на іх напісана «Счастья и радости в Новом году!» Якая ўжо тут радасць! Я ж быў упэўнены, што адправіў сваім сябрам «арыгінальныя беларускія сувеніры».

І сумна, і крыўдна. Але на каго тут крыўдаваць, калі не на саміх сябе. Пермская фабрыка Дзяржзнаку добрасумленна (чытай: абыякава, бяздушна) выканала нашую замову і, напэўна, яшчэ нечую. І вось гуляе па ўсёй СНД штампаваны, стандартны бланк. Я атрымаў такія ж віншаванні з Пскова, Санкт-Пецярбурга, Навасібірска.

Ніхто не паклапоціцца пра нас, калі гэта мы не зробім самі. Дзякуй Богу, што ў шапіку ТБМ яшчэ не былі раскупленыя сапраўды нашыя калядныя паштоўкі, якія не толькі напісаныя па-беларуску, але й па духу беларускія. Ізноў паляцелі да маіх сяброў калядныя віншаванні. Спадзяюся, што на гэты раз яны прынясуць ім сапраўдную радасць.

**Лявон ГУМЕННІКАЎ.**

г. Мінск.

---

фактычна знікла і пагроза ядзернай вайны. З экранаў тэлевізараў, са старонак газет палітыкі з гонарам расказваюць, якую вялікую работу ім давялося зрабіць, рыхтуючы дагавор па СНУ-2. Ніхто толькі не ўспамінае ў гэтыя дні Андрэя Дзмітрыевіча Сахарава, цябе, Алесь, соцень вашых паплечнікаў і паслядоўнікаў, якія столькі гадоў сантыметр за сантыметрам падточвалі той ляднік, пакуль ён не споўз, не пакаціўся з грукатам уніз. Не ў славе справа? Вядома, так. Але, але, дружа...

**Што далей? Наперадзе — ратыфікацыя дагавора СНУ-2 у Расійскім парламенце. Улічваючы, якая публіка там сядзіць, лёс ратыфікацыі пад пытаннем. А пакуль што вакол усёй гэтай падзеі ўсчала енк і віск рэакцыйная раць чырвона-карычневых. Усе гэтыя бабурыны, канстанцінавы, сцерлігавы і праханавы, імкнучыся ўздзейнічаць на абывацельскую свядомасць, крычаць аб здрадзе інтарэсам матухны-Расіі, якая, маўляў, засталася безабароннай перад «імперыялістычным Захадам». Як не пагадзіцца з такімі радкамі твайго артыкула ў «Известиях», надрукаванага ў лістападзе мінулага года: «Воспаленноглазые, громкозвучные оппоненты-противники исторического ухода нашей страны со сцены «социалистического выбора»... и с ними стыковавшиеся спасители империи любой ценой, как же они хотели бы, чтобы мы забыли, от чего ушли, чего избежали, что человечеству грозило совсем недавно и что снова надвинется неотвратимо, как только они получат власть. И снова ядерные ракеты станут главным аргументом политики — и это неизбежно. Притом не только в разговоре с дальним, но и с ближним зарубежьем».**

Хачу сказаць табе, Алесь Міхайлавіч, што пазіцыя нашай з табой Беларусі адносна падпісання апошняга дагавору ў Маскве безумоўна самым станоўчым чынам адаб'ецца на яе міжнародным аўтарытэце. Я з вялікім задавальненнем успрыняў узважанае выказванне аб дагаворы па СНУ-2 Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслава Шушкевіча, які шчыра вітаў падпісанне расійска-амерыканскай дамоўленасці аб скарачэнні стратэгічных узбраенняў, падкрэсліўшы вернасць Беларусі курсу на бяз'ядзернасць і нейтралітэт. «Мы хочам пазбавіцца ад ядзерных арсеналаў на сваёй тэрыторыі як мага хутчэй», — сказаў ён.

Здзівіла мяне пазіцыя па гэтых пытаннях нашай суседкі Украіны, якая дэманстратыўна не спяшаецца далучыцца да дагавора па СНУ-2. Дарэчы, яна не падпісала яшчэ і заключаны раней дагавор па СНУ-1. Ці тамтэйшыя палітыкі цешаць сябе думкай, што Украіна, з'яўляючыся сёння трэцяй ядзернай краінай свету, зможа некаму дыктаваць сваю волю? Дзіўна.

Не вельмі варушыцца ў гэтым плане і Казахстан з яго немалой ядзернай зброяй.

Але будзем спадзявацца, што «працэс пайшоў».

Тут і пастаўлю апошнюю кропку. Здароўя, шчасця і плёну ў тваёй працы, дарагі Алесь!

**Твой Міхась ЗАМСКІ.**

P. S. Твой артыкул «Эксперымент» падрыхтаваны да друку і будзе змешчаны ў бліжэйшым нумары «ЛіМа».

**М. З.**

---

# НАЦЫЯНАЛІЗМ

**Гэтае паняцце стала тэмай гутаркі карэспандэнта «ЛіМа» Уладзіміра ПАНАДЫ і амерыканскага даследчыка пытанняў нацыянальных рухаў Джэральда ФОЛЭЯ**

**Дж. Фолэй нарадзіўся і жыве ў ЗША. Ад 60-ых гадоў займаецца вывучэннем нацыянальна-вызваленчых рухаў у свеце. У 70-я гады у якасці журналіста працаваў у Францыі, Англіі, Ірландыі, у 80-ых—у Польшчы, супрацоўнічаў з польскай службай «Радыё «Свабодная Еўропа». Шмат разоў наведваў СССР. Аўтар шэрагу публікацый у выданнях Заходняй Еўропы і ЗША, прысвечаных праблематыцы палітычных і нацыянальных рухаў у краінах Балтыі, на Украіне, у Расіі. Рыхтуе да выдання кнігу, прысвечаную гэтай тэматыцы.**

**У. П.: Спадар Фолэй, вы — чалавек, які ўсё жыццё займаецца вывучэннем нацыянальных рухаў і іхняй палітычнай накіраванасцю ва ўсім свеце. Што стала прычынай вашай цікаўнасці да гэтай праблемы?**

**Дж. Ф.:** У значнай ступені — маё паходжанне і палітычныя перакананні. Я нарадзіўся ў Злучаных Штатах у сям'і ірландскага паходжання. Ужо з дзяцінства я ведаў: я — ірландзец, а не англа-амерыканец. На фармаванне майго светапогляду значна паўплывалі часы школьніцтва. У амерыканскай школе пераважае погляд на Амерыку як на працяг Англіі. Лічыцца, што амерыканская цывілізацыя ёсць працягам ангельскай, а ангельская цывілізацыя ёсць найлепшая. Лепшая таму, што ў гэтай краіне ніколі не было рэвалюцый, затое была бесперапынная эвалюцыя. Гэта — увадзіцца ў свядомасць дзяцей — закладзена ў генах англасаксонскай расы. Але я не ўспрымаў гэтага. Я шукаў сваіх каранёў. Я пачаў вывучаць гэльскую мову — мову народа Ірландыі, цікавіўся ўэльскай і шатландскай мовамі. Так я рэагаваў на спробу накінуць мне агульнаамерыканскія каштоўнасці. Гэта называецца радыкалізм. І як вынік — я ўзяўся за вывучэнне нацыянальных і нацыянальна-вызваленчых рухаў іншых рэгіёнаў — Лацінскай Амерыкі, Афрыкі, Еўропы. Пачаўшы ад вывучэння мовы і культуры Ірландыі — радзімы маіх продкаў, —я прыйшоў да разумення каштоўнасці культур малых народаў, якія ёсць альтэрнатывай пануючай у Еўропе ды і ў свеце англа-амерыканскай культуры. Так фармаваўся мой светапогляд, так я зрабіўся прыхільнікам культурнага плюралізму ў свеце.

**У. П.: Ваш светапогляд неяк адбіўся на вашых палітычных перакананнях?**

**Дж. Ф.:** У маладосці я быў на баку кубінскай рэвалюцыі. Я быў на баку маленькага народа, які супрацьстаяў звышдзяржаве ЗША. Вывучаючы культуру Кубы, я знайшоў у ёй шмат агульнага з ірландскай. Найбольш яскравы прыклад — паэзія Хазэ Марці, лад думак якога быў вельмі падобны да стылю паэтаў Ірландыі— удзельнікаў Дублінскага нацыянальна-вызваленчага паўстання 1916 года. Тое паўстанне не мела аніякіх шанцаў, яно было задушана і ўсе ягоныя кіраўнікі, сярод якіх было шмат выдатных нацыянальных паэтаў, былі пакараныя смерцю. Але гэтае паўстанне стала сімвалам барацьбы, стала фактычна яе пачаткам. Гэтаксама і і Марці быў для мяне ўзорам нацыянальнага паэта і патрыёта. Я адчуваў сваю блізкасць да кубінскай рэвалюцыі і таму падтрымліваў шчыльныя сувязі з рэвалюцыйным (трацкісцкага накірунку) рухам у ЗША. У Злучаных Штатах гэты рух мае традыцыі шчыльных сувязей з нацыянальнымі рухамі. У прыватнасці, у тыя гады сацыялісты супрацоўнічалі з нацыяналістычным рухам чорных амерыканцаў. Дзякуючы іхняй дапамозе я мог цалкам прысвяціць сябе даследаванню нацыянальных рухаў.

Пачаўшы навуковую дзейнасць, я пачаў удзяляць менш часу палітыцы. З таго часу прайшло шмат гадоў, і перамены ў навакольным свеце значна пашырылі мае погляды... Але гэта ўжо іншае пытанне.

**У. П.: Пачаўшы навуковую дзейнасць, вы працавалі пераважна ў архівах?**

**Дж. Ф.:** Не. У 1970 годзе я ў якасці рэпарцёра аднаго з амерыканскіх выданняў прыехаў у Ірландыю. Гэта быў час паўстання католікаў у Паўночнай Ірландыі, і амерыканцаў цікавілі гэтыя падзеі. Грамадская думка падтрымлівала вызваленчую барацьбу рэспубліканцаў. Я ж яшчэ ў Штатах вывучаў гэльскую мову і гісторыю краіны і таму мог як роўны гаварыць з рэспубліканскімі лідэрамі.

Гэта быў складаны час... Рэспубліканцы стваралі масавы рэвалюцыйны рух. Але пазней кіраўніцтва перайшло да сталіністкіх установак, і яны вельмі хутка разлажыліся. Яны забівалі іншадумцаў у сваім асяроддзі... Гэта дарэчы, таксама паўплывала на мае перакананні.

**У. П.: У той час вы абмежаваліся вывучэннем выключна ірландскага руху?**

**Дж. Ф.:** Тады мяне найбольш цікавілі рухі кельцкіх народаў. У канцы 50-х гадоў ірландскі рух апынуўся ў тупіку. Прычынай гэтага стала паражэнне ірландскіх нацыяналістаў у партызанскай вайне, якую яны вялі з сярэдзіны 50-х. Афіцыйна гэта было прызнана ў 1961 годзе, і з таго часу пачаўся перыяд стагнацыі. Але тады ўжо пачалі развівацца нацыянальныя рухі ў Шатландыі, Уэльсе... Яны сталі рухаючай сілай Кельцкай Лігі — руху салідарнасці легальных партый з выразнай нацыянальна-культурнай арыентацыяй. Сярод іх вылучалася Уэльская нацыяналістычная партыя. Гэтая партыя абапіралася на рух за ўэльскую мову. Вы ведаеце, гэльская мова ў Ірландыі мае вялікае сімвалічнае значэнне як мова барацьбы за незалежнасць, але ўжываецца яна абмежавана. Ва Уэльсе іншая сітуацыя: значная частка насельніцтва гаворыць па-ўэльску, хаця небяспека знікнення мовы і народа застаецца. Таму традыцыяй Уэльскай Нацыяналістычнай Партыі ёсць абарона мовы, абарона ўэльскамоўнай часткі грамадства.

Я вывучаў уэльскую мову, цікавіўся дзейнасцю Уэльскай партыі і таму добра ведаю іхнія праблемы, падобныя да праблем іншых нацыянальных рухаў. Напрыклад, ці можа марксіст быць нацыяналістам? Тут варта прывесці прыклад арганізацыі чарнаскурых амерыканцаў «Чорныя пантэры». Гэтая арганізацыя паўстала як выразна нацыяналістычная, але марксісцкая скіраванасць адштурхнула іх ад нацыянальнага руху. Яны зрабіліся сектантамі, бо не разумелі важнасці і моцы шырокага нацыяналістычнага руху.

**У. П.: Калі размова пайшла аб гэтым, дык скажыце, якое месца займаюць нацыянальныя пытанні ў праграмах палітычных партый на Захадзе?**

**Дж. Ф.:** У сувязі з гэтым пытаннем хутчэй трэба гаварыць аб праблемах, звязаных з нацыянальнай арыентацыяй пэўных партый. Зноў прывяду прыклад Ірландыі. У свой час асобныя групы Ірландскай Рэспубліканскай арміі ад радыкальнага нацыяналізму перайшлі да левага сектанцтва. Утварылася плынь, якая лічыла нацыяналізм за дробнабуржуазнае адхіленне. Падобная плынь існавала і ва Уэльсе — Уэльскі Рэспубліканскі Рух, прыхільнікі якога перайшлі да тэрарызму, які быў хутка задушаны паліцыяй.

Нацыяналізм і палітыка... Сёння ў нас на Захадзе найбольшымі прыхільнікамі марксізму ёсць лібералы. Яны называюць сябе інтэрнацыяналістамі і сцвярджаюць, што нацыяналізм прыгавораны да знікнення, што гэта — старамодная з'ява, што будучыня— за міжнароднымі фармацыямі. Ва ўплывовых амерыканскіх газетах можна знайсці аргументы, вельмі падобныя да аргументаў так званых «марксісцкіх сектантаў» — што важным ёсць яднанне рабочых дзеля канкрэтных эканамічных патрабаванняў... У гэтым лібералы вельмі падобныя да камуністаў. Яны лічаць бяспечным эканамізм — барацьбу за эканамічныя правы і небяспечным нацыяналізм — барацьбу за правы палітычныя, за нацыянальнае адраджэнне. Паўсюль у свеце, дзе існуюць ачагі палітычнай нестабільнасці, узмацняюцца пазіцыі нацыянальных рухаў, бо барацьба за нацыянальныя правы мае рэвалюцыйны характар. Так, паўстанне ў каталіцкіх гета Паўночнай Ірландыі стала амаль рэвалюцыяй, якая закранула не толькі Ольстэр. Была мабілізацыя рабочых у Дубліне, якія патрабавалі зброі. Тое ж самае адбылося пасля «крывавай нядзелі» ў студзені 1972 года, калі ангельская армія расстраляла ўдзельнікаў мітынгу за грамадзянскія правы. Рабочыя адказалі стыхійным агульным страйкам. Гэта было амаль паўстанне, але ірландскія рэспубліканцы не развівалі агульнанацыянальны рух, перайшлі да метадаў тэрарызму і апынуліся ў тупіку.

**У. П.: Словы «нацыянальны» і «нацыяналістычны» ў вас гучаць, як сінонімы. Але ж тут яны маюць розны сэнс...**

**Дж. Ф.:** Для нас рух нацыянальны ці нацыяналістычны — тое ж самае. Я ведаю, што ў краінах былога СССР існуе іншая тэрміналогія. Але для нас, ірландцаў, «нацыяналізм» не ёсць кепскае слова, роўна як і «сепаратызм». Нашы прынцыповыя нацыяналісты былі сепаратыстамі, што змагаліся за незалежнасць Ірландыі ад Вялікай Брытаніі, а памяркоўцы, што выступалі за аўтаномію, сталі здраднікамі.

Нацыяналізм ёсць рух за дасягненне палітычнай улады. Спачатку гэта можа быць рух за культурныя і палітычныя правы, але ў рэшце рэшт азначае змену ўлады. Гэты рух мае сваю грамадскую дынаміку. Так, напрыклад, у Ірландыі найбольш забяспечаныя людзі — ангельцы ці ірландцы, схільныя да супрацоўніцтва з Англіяй. Тыя ж ангельцы распараджаюцца большай часткай маёмасці ў краіне...

(Працяг на стар. 4).

як коні другія
лятуць з капыта —

па снежнаму полю,
зялёных лугах,
іржуць апантана
ў літоўскіх лясах.

Дамо ім дарогу —
хай хлопцы лятуць!
На Грунвальд і Воршу
іх трубы завуць.

Яны маладыя,
ім ляцець і ляцець...
Нам, косю, за імі
ўжо не паспець.

Вярнемся з табою
да нашай вады.
Да старога карыта
плятуць капыты...

Косю мой, косю,
за намі ідуць —
напэўна, у Гродна
тыграм павязуць.

Як будуць вязці нас
па роднай мяжы —
каб людзі не чулі,
прашу, не іржы.

Косю мой, косю...

## Воўк

**(Просценькі верш з дзеяслоўнай рыфмай)**

Акно вечарэе. Каліна цвіце.
Хмара над хатай расце.

Ліпа трывожна шуміць,
Нехта пад ліпай стаіць.

Вочы гараць. Можа, ў хату пусціць!
Хай у кутку паляжыць!

Нехта шкрабецца паціху ў акно.
Пытаюся: «Хто!»

Шэпча: «Я — воўк. Пусці.
Холадна спаць у трысці».

Я хату яму адчыніў.
Старэнькі кажух пасцяліў.

Панюхаў кажух ён, сказаў:
«Пахне авечкай маёй.

Авечка была маладой —
не здужаў яе, не ўзяў».

Мы разам з ваўком леглі
на харошай авечай зямлі.

І чуў я ўсю ноч праз сон:
па-чалавечаму плача ён.

...Світае акно. І каліна цвіце.
Воўк па дарозе ў пушчу брыдзе.

## Белая птушка

«На Беларусі Бог жыве...» —
І хай сабе жыве.
У. КАРАТКЕВІЧ.

Абкарналі цябе, знявечылі,
Вотчына мая горкая...
Белая птушка
над тарфянікамі, пагоркамі
махае крыламі нявечнымі, —

крывінкай сцякае над Сожам,
тужліва клякоча над Бугам...
Белая птушка
ладкуе гняздо на Каложы —
ратуе сябе Святым Духам.

Махае крыламі і падае
на атручаныя сенажаці.
Белая птушка...
У неба вячэрняе згадкаю
Венера ўзышла, сказаці,

што, можа, і мы апошнія
на Богам зямлі праклятай...
Белай птушцы
калюча над роднаю пожняю,
балюча над роднаю хатай.



Фота А. МАЦЮША.

раптам так вольна і прыемна зрабілася на душы ад таго, што паспее развітацца з сяброўкамі, што будзе ляжаць тут, побач з мужам, на старых вясковых могілках. «Трэба дацягнуць да Вялікдня, каб на трэці дзень памерці»,—загадала сабе. Бог пачуў яе словы. За два тыдні да праваслаўнага свята завезлі Піліпаўну на падводзе ў пасялковую калгасную бальніцу. Яна памерла на другі дзень Вялікдня. Было сонечна. Чаромха, якая расла пад вокнамі яе палаты, зацвіла. Піліпаўна паспела ўбачыць веснавое харaство дрэва.

## Роспач

Калі я прыйшоў на белы свет... мой дзед, застаўшыся пасля першай сусветнай вайны без хаты, узяў у банку пазыку і на пляцы прадзеда, які разам з казакамі ў мінулым стагоддзі бараніў братоў-балгараў, збудаваў дом. Непісьменная бабуля выгадавала маю маці, маіх дзядзькоў вывела ў людзі, наткала ручнікоў ды посцілак і дзецям, і ўнукам. У яе гародзе было мноства розных кветак, у хаце рос сапраўдны лімон, які пладаносіў, а на сотках яна вывела сваю самую смачную ў мястэчку бульбу, якую з ахвотаю давала для разводу ўсім жадаючым... Адзін мой дзядзька ўсё жыццё капаў калодзежы, толькі ён быў галоўны спец, ведаў, дзе і як шукаць у зямлі гаючую, смачную ваду. Капаў там, дзе расло конскае шчаўе. Калі ж яго скруціў радыкуліт, вывучыўся новай прафесіі і хадзіў класці печы, якія ніколі не дымілі і служылі людзям доўгія гады. Другі дзядзька будаваў хаты, а ўзімку шыў чобаты. Маці мая адна без бацькі, з якім была ў разводзе, на свой страх і рызыку паставіла зруб новай хаты, завезла сталярку... Калі я прыйшоў, стрыечны братператварыў голае калгаснае поле ў цудоўны сад. Другі стрыечны брат, з мянушкаю Акадэмік, умеў рамантаваць прасы, швейныя машыны, пыласосы, тэлевізары, лодачныя маторы, электрабрытвы, радыёлы і самалёт-кукурузнік, які аднойчы сапсаваўся і сеў на каморы за мястэчкам. Трэці стрыечны брат, як казалі, самы непуцёвы ў родзе, некуды з'ехаў, без дазволу бацькоў, потым аб'явіўся каля Рэчыцы, бурыў там свідравіны, шукаў нафту і знайшоў яе! Адзіная стрыечная сястра доўга «капціла» мазгі ў навуцы, пра яе нават пісалі японскія ды нямецкія газеты... яна знайшла рашэнне нейкай там загадкавай тэарэмы, якая неабходна была пры карэкціроўцы арбіт спадарожнікаў ды касмічных станцый. Перад маім прыходам людзі насыпалі грэблю, а затым залілі асфальтам усю дарогу да раёна, правялі электрычнасць, збудавалі мост, трымалі сто дваццаць галоў жывёлы, дубілі і фарбавалі скуры, узвялі па ўласным праекце прыгожую царкву ў пяць купалаў.

...Я прадаў старую, трухлявую дзедаву хату, прадаў зруб незавершанай мацерынай будоўлі, знасіў кажух, засыпаў смеццем калодзеж, які выкапаў дзядзька, згубіў рашэнне тэарэмы, якое знайшла стрыечная сястра, не даглядаў братаў сад, ніколі не фарбаваў драўляныя крыжы на магілах бабы, дзеда, маці, дзядзькоў, не наведваў могілкі ў другім горадзе, дзе пахаваны бацька, не навучыўся даіць карову, казу, засольваць у бочцы гуркі, закатваць памідоры, варыць вішнёвае варэнне. Я змяніў мноства прафесій, толкам ніводную не засвоіў, хадзіў заўсёды ў падручных, памочніках, карацей кажучы, шукаў, дзе лёгка і непрыкметна можна лайдачыць. Піў віно, гарэлку, ром, віскі, джын, спірт... Там, дзе піў, любіў біць пустыя бутэлькі. Падабаўся гук разбітага шкла. Не хадзіў да царквы, не збудаваў сабе дом, не ўзяў з сабой у сталіцу бабуліны ручнік, посцілку, і на сцяне ў пакоі інтэрната над маёй галавой не вісіць фота маці. Ляцяць гады, раяць пачынаць думаць пра вечнае, а я ні на чым не паспяваю засяродзіцца, да ўсяго абыякавы, і ад гэтага мне ўсё роўна не сорамна... і чаго я прыйшоў?

## Вечар

Васьмідзесяцідвухгадовая маці прачынаецца першай. Ляжыць нерухома, не кліча на дапамогу дачку, «няхай якія лішнія паўгадзіны паспіць. Яна так за ўчарашні дзень намарылася». Саракашасцігадовая дачка праз сон чуе, што маці прачнулася, асцярожна і ціха пакідае ложак, каб не пабудзіць нелюбімага мужа, які апошнія чатыры гады ўзяў манеру прыставаць толькі ў гэты час— а сёмай гадзіне раніцы. Дачка ідзе ў пакой да маці, вітаецца і выцягвае з-пад старой жанчыны кляёнку, мокрыя пялёнкі, нясе ўсё ў ванную, вяртаецца, мые маці твар, шыю, рукі.

— Які дзень сягоння, дачанька? — пытаецца маці.

— Чацвер, мама.

— У цябе другая змена?

— Другая.

Устае муж. Крэкча, кашляе і гучна чыхае ў туалеце. Яна ідзе на кухню, варыць мужу каву, наразае сыр, каўбасу, сама снедаць не застаецца, выбягае да магазіна, які адкрываецца а восьмай гадзіне, купляе кавалак мяса і хутка вяртаецца дахаты. Чалавека няма. Толькі запіска: «Забяры ў атэлье з рамонту радыёпрыёмнік». Яна камечыць пісульку, кідае ў памыйнае вядро. Гатуе манную кашу, заварвае чай, зноў наразае сыр і каўбасу маці і сабе. Снедаюць паасобку. Маці—у ложку, дачка—на кухні. Успамінае, што скончылася бульба. Зноў апранае свэдар, ідзе да магазіна «Гародніна». Там бульбы няма. Раздражнёна вяртаецца дадому, дастае з запасаў апошнія паўкіло макаронаў. Маці чакае, нарэшце просіць дачку прынесці свежую пошту. Яна, жонка былога партыйнага кіраўніка, здавён чытае «Праўду», «Звязду». Маці адзіная на ўвесь шматпавярховы панельны дом, хто яшчэ чытае беларускую газету. Дачка не ездзе ліфтам, баіцца (ліфт часта псуецца), спускаецца і падымаецца пехатою. Задыхваецца. З сумам думае, што яшчэ год таму яна так не стамлялася, падымаючыся на свой чацвёрты паверх. Падае маці газеты, а сама п'е каву.

Тэлефон. Старэйшая дачка просіць дазволу прывезці на выхадныя двухгадовую ўнучку. Званок гэты перакуліў усе планы. Так хацелася вырвацца на гадзіну-другую адзіноты ў Батанічны сад. Адцвітаюць кветкі: апошні вартавы лета—цыкорый. Яна так любіць гэту пару пераходу да восені. Але ж што рабіць. Унучка—цуд прыроды, як кожнае малое дзіця, забірае рэшткі вольнага часу, але і цешыць душу. Зноў кліча маці. Просіць выключыць тэлевізар.

— Прыдуркі гэтыя Краўчук ды Ельцын, прыдуркі. Як можна ім сварыцца? Выключы, не магу на гэтую ганьбу глядзець!

Дачка ўспамінае раптам, што сёння ў домаўпраўленні выдаюць талоны.

Ідзе туды, стаіць гадзіну ў чарзе, нарэшце атрымлівае прасціну талонаў, па дарозе дахаты паспявае трохі атаварыць іх—купляе манку, рыс, цукар. Маці чакае. Дачка спяшаецца. Сустракае аднакласніцу. «Ты звані. Як-небудзь сустрэнемся». Абое ведаюць, што наўрад ці сустрэнуцца... Цяжкая пара нейкага павольнага адзічэння на сустрэчы не пакідае ні часу, ні жадання. Маці чакае. Думае аб сваім, патаемным.

Сёння яна, нарэшце, усё раскажа сваёй любімай, працавітай, паслухмянай дачушцы. Старэйшая жыве ў Петразаводску, «абрасла» ўнукамі, змагаецца з хваробаю — сахарным дыябетам. Маці разумее, што паміраць ёй давядзецца тут, у роднай старонцы, на руках у малодшай дачкі. Маці чакае. Дачка спяшаецца. Да работы застаецца гадзіна. Трэба яшчэ даварыць абед, абмыць маці, сабрацца на работу, забегчы ў атэлье, купіць праязны білет. Маці, хаваючы слязу падзякі, назірае за ўвішнаю дачкою, і зноў вяртаецца да адных і тых жа думак. Сёння яна адкрыецца дачушцы, а то яшчэ памрэ раптоўна і забярэ тайну ў магілу. Усё. Знаёмы тралейбус, у якім можна трошкі расслабіцца. Пяць гадзін на рабоце ля камп'ютэра ў цесным пакойчыку медстатыстыкі інстытута праблем Чарнобыля ляцяць хутка. За гэты час паспявае двойчы пазваніць дамоў, збегаць у аптэку насупраць і ў магазін —купіць тварагу і алею. Ад экрана камп'ютэра перад вачыма доўга стаіць сінь. У тралейбусе інтэлігентны мужчына тактоўна навязваецца ў праважатыя. Ёй прыемна, што яна, схуднелая, стомленая, без макіяжу на твары, можа некага яшчэ цікавіць. Ён запрашае ў тэатр, на выставу сучасных беларускіх мастакоў. «Божа! Як даўно яна не выбіралася ў тэатр, у кіно... Людзі яшчэ ходзяць на выставы... Не верыцца, што ёсць сучасныя беларускія мастакі...»

Не, яна не пакінула яму свой нумар тэлефона. Яшчэ нейкія амурныя заляцанні? Крый божа! Гэта звыш сіл. Маці чакае.

Пры святле настольнай лямпы цыруе шкарпэткі. Шукае хоць якую-небудзь работу для рук. Гэта так жахліва сядзець сіднем і толькі ўспамінаць, што зусім нядаўна магла пехатою аббегчы ўвесь мікрараён. Як адняліся ў яе ногі і дактары пасля года лячэння нарэшце прызналіся ў бяссіллі і афармілі інваліднасць, папрасіла яна ў дачкі, каб прынесла ёй таблетак, каб напіцца і больш не прачнуцца. Дачка прыстыдзіла маці, абняла яе, заплакала.

Вечарэе. Муж ляжыць на канапе, глядзіць тэлевізар і рашае шахматную задачу. Ён беражэцца: два гады таму перанёс нескладаную аперацыю на нырцы. Аніякіх фізічных нагрузак. Нават хлеба сабе не адрэжа. Дачка пераступае парог кватэры і зноў знаёмы рытм, аднастайная мітусня. Корміць маці, мужа, прыбірае посуд, замочвае нанач у ваннай бялізну.

— Дачушка, пасядзі каля мяне,— просіць маці, калі заканчваюцца апошнія навіны па тэлевізары. Дачка ідзе да маці і стомлена апускаецца на канапку насупраць. Ай не хочацца ісці ў свой пакой і класціся разам з нелюбімым мужам. Маці блізкая да таго, каб адкрыць свой сакрэт, але ж нешта ў апошнія мінуты стрымлівае яе.

Што ж так пільна хавае ад дачкі маці? Даўно, сорак сем гадоў назад, калі зацяжарыла другі раз, надумала яна пазбавіцца ад дзіцяці. Лішні рот, гады галодныя, пасляваенныя, хопіць і аднаго дзіцяці. Дамовілася з акушэркаю, прыйшла ў бальніцу. Муж, якога няйначай Бог накіраваў, датэрмінова прыехаў з камандзіроўкі і, уведаўшы ад суседкі, дзе ягоная жонка, прыбег у бальніцу, паспеў літаральна за некалькі хвілін да аборту выцягнуць сваю маладую, непуцёвую жонку на вуліцу.

— Зробіш аборт—развядуся! Так і знай!—строга папярэдзіў ён яе тады.

І вось маці нясе гэтую сваю віну праз усё жыццё. Толькі і паспявае сказаць: «Даруй мне, дачанька, я... хацела ж». Нейкі пякучы ком сціскае горла, не дае дагаварыць. Дачка думае, што маці плача над сваёй горкаю доляю. І таму, спачуваючы ёй, не-не ды і заплача сама. Застаўшыся адна, маці каторы раз дае сабе слова, што заўтра адкрые тайну, зніме віну з сэрца. З надыходам цемры жыць ёй не хочацца. Аднак раніцаю іх абодвух будзяць сонечныя промні. Маці чакае, дачка спяшаецца на дапамогу. У светлы сонечны дзень менш думаецца пра цяжкасці, смерць. Ім хочацца жыць.

ЗГАДКІ

Заір АЗГУР

# БАРЫСАВА ПОСТАЦЬ

ЧАМУСЬЦІ перш-наперш прыгадваецца постаць гэтага чалавека. Ён выглядаў— асабліва з адлегласці — вышэйшым, чым быў у сапраўднасці. Трымаўся заўсёды з годнасцю і адначасова без ганарлівай пыхі. Асабліва ветліва яго сустракалі і адказвалі на ягонае прывітанне жанчыны. Толькі на парозе дома з'яўляўся Барыс Міхайлавіч Мікуліч, абавязкова зняўшы з галавы шапку (зімой — мехавую «піражком», а летам — брылясты светлы капялюш-канац'е), як гаспадыня ўжо звыкла цягнула яму руку і праменілася ласкавай усмешкай. І ён цалаваў руку і нешта гаварыў паціху, ад чаго шчокі тае жанчыны ўспыхвалі добрым румянцам, а вочы блішчэлі ад радасці. Барыс ужо вітаўся з іншымі гасцямі.

Спачатку мне такія манеры здаваліся трошкі штучнымі, спецыяльна выпрацаванымі. Цалавалі ручкі ў дам тады «былыя», «старарэжымныя», як мы казалі, людзі. І гэты ягоны нахіл галавы, па-свойму грацыёзны і пакорлівы, я для сябе называў «гусарскім». І Барысавы вочы, якія нібы толькі і чакалі, калі ж яны ўбачаць цябе, каб з табой прывітацца, загаварыць. І ўся ягоная постаць — ладная, зграбная, як і гарнітур на ім, пачынаючы з таго ж канац'е, што выглядала ўжо зусім «дарэвалюцыйна»... Нешта было ў Барысе, што і раздражняла некаторых ягоных калег і супрацоўнікаў. Гэта я заўважаў.

І тлумачыў усё той жа «старарэжымнай» выхаванасцю, падкрэслена ветлівым абыходжаннем, гэткай «інтэлігеншчынай», якой не надта захапляліся і якую нават асуджалі нашы тагачасныя пралетарскія літаратары. Ды яны яшчэ і наогул высмейвалі ў інтэлігентаў той жа капялюш як «перажытак дробнабуржуазнага густу», а наконт гальштука спрачаліся, ці не дыскрэдытуе ён наогул савецкага чалавека, камсамольца, члена партыі.

Праўда, часам я думаў, што чапляюцца да Барыса за ягоную прыстойную выхаванасць з пачуцця зайздрасці. Бо і ў мастацкай прозе ён адразу заявіў пра сябе ўпэўнена і арыгінальна. Я не помню, каб першыя публікацыі твораў Б. Мікуліча мелі на сабе адбітак літаратурнага вучнёўства, не было ў яго і прыкрай для пісьменніка рэпутацыі «пачаткоўца».

Калі мы з ім пазнаёміліся бліжэй, я сказаў яму пра гэта. Пачуў у адказ нешта прыблізна такое: маўляў, сляды «пачатковых» практыкаванняў сапраўдны мастак павінен хаваць ад калег і ад публікі (ён падкрэслена вымаўляў не «чытач», а «публіка»). Павінна быць прыроднае адчуванне таго, што такое «сапраўднае» ў мастацтве, і, дасягнуўшы таго «сапраўднага», літаратар можа выпраўляцца ў творчы шлях з горда ўзнятым чалом. Прасіцельская поза і прасіцельскі выраз на твары прыніжаюць годнасць нават прафесіі, якую ты абраў! І цябе самога асабліва.

«Гэта ж смеху варта: паэт, напрыклад, — і ён жа прасіцель!» — катэгарычна абвяшчаў ён і рабіў ялейна-ліслівую грымасу, ссутульваўся, згінаў шыю. Я не мог утрымацца ад рогату, бо пазнаваў у гэтай жывой карыкатуры і некаторых малых калег на выяўленчым мастацтве. Але, не да твару мастаку прасіцельства!..

Жадаючы сказаць яму прыемнае, я заўважыў, што ён добра ведае правілы прыгожай ветлівасці з жанчынамі. Нават пажартаваў наконт гэтага. І пачуў ад Барыса гімн у славу кахання наогул, і ў славу Жанчыны (у ягонай інтанацыі чулася гэтая вялікая літара!). Аказваецца, адным з імпульсаў да літаратурнай працы для яго быў... Джэк Лондан. Якраз Марцін Ідэн у юнацкім узросце зрабіўся кумірам для Мікуліча. Чаму? Барыс сказаў, што на першых старонках рамана аўтар робіць важную заўвагу: «Ён, Марцін, заўсёды жыва адгукаўся на хараство...».

— Зедаеш, Заір, гэта так добра — адгукацца на хараство! У прыродзе, у чалавеку, у мастацтве... Я хлопцам, прачытаўшы гэта, скалануўся ад раднаснага прадчування, што і мне захочацца выхаваць у сабе, калі яго няма ад прыроды, такое ж адчуванне. А мо я і ў дзяцінстве сам інтуітыўна таксама адгукаўся на прыгожае... Калі бачыў гронку рабіны пад белым снегам або першыя пралескі на праталінах у лесе... І той незвычайны бляск жаночых вачэй, які не выказаць словам. Бляск, якім свеціцца душа, наканаваная быць нам сяброўкай, каханай, маці, бабуляй. Усё, што змяшчае ў сабе жанчына, чытаецца ў яе позірку! Мабыць, гэта самае высокае хараство, якое я ведаю...

Я доўгі час успрымаў гэта інакш, чым Мікуліч, бо быў пад моцным уплывам уважліва прачытанай мной кнігі вядомага вучонага. знаўцы псіхалогіі і фізіялогіі чалавечых палоў Ота Вайнінгера. Яна так і называлася «Пол і характар». Адтуль я засвоіў вельмі ўражлівую для юнака думку: жаночае цела з яго запатрабаваннямі дыктуе ўсе яе паводзіны. Душа быццам ёй, жанчыне, нічога не падказвае. А творчай асобе, мастаку патрэбна спартанская воля і манаская чысціня ў намерах і роздумах! Вядома, юнацкі максімалізм, выдаткі станаўлення, але з такімі маімі адносінамі да жанчыны Барыс Мікуліч прымірыцца не мог.

Помню, што ў час нашых з ім праходак па мінскіх завулках і вуліцах, якія яшчэ былі па-правінцыяльнаму мілымі ў засені бэзавага і чаромхавага хмызняку, голас гэтага віталіста гучаў то ўрачыста, то даверліва спавядальна, то прыцішана да шэпту. Мы кружылі з ім па Слонімскай, па Маскоўскай, па Бабруйскім тракце — ад колішняга Брэсцкага вакзала да Віленскага. Неба за Брэсцкім гарэла на захадзе сонца, а там, на Саборным пляцу, ужо вечарэла і мільгацелі ў цёмным блакіце першыя зоркі. І цяпер я лёгка прыгадваю тыя часы. І сутнасць Барысавых прамоў таксама.

— Каханне, браце Заір, гэта — хвароба, безумоўна. Ты тут не памыляешся. Але ж гэта — ці не самая лячэбная для нас... Гаючая! Здатная песціць і акрыляць... Закаханы больш тонка адчувае хараство зялёнага лісця на дубе і зялёнага пуху на грудзях сініцы... Яму адкрываецца глыбіня блакітных адценняў неба і ў кветцы васілька. Ён чуе салаўіную песню і цвіркат вераб'я, быццам раней ніколі іх не чуў. Перад ягоным позіркам ціхаплынная Свіслач рухаецца ў сваіх звівах і месяц над ёю нібы паволі шукае месца над Мінскам, дзе б яму спыніцца на ноч... І ўсё гэта для закаханага — музыка і карціна жывога жыцця, якое абяцае яму радасць і шчасце. Нават прадчуванне ахвярнага лёсу, які чакае або цябе, мужчыну, або яе, не палохае нас, надае мужнасці і рашучасці. Пакуты кахання не прыніжаюць чалавека, Заір. Толькі гэтыя пакуты раскрываюць у ім запасы трываласці і надзей. Ды і ў таго, каго можна назваць «трэцім», у старонняга назіральніка, тыя пакуты закаханых абуджаюць спачуванне. А спачуванне — дабрадзейнае пачуццё...

Сёння мне здаецца, што такія прамовы вёў Мікуліч, калі мы гулялі недзе на Ляхаўцы пад настоеным водарам белага і ліловага бэзу. У яго разважаннях аб каханні чуліся ноты, запазычаныя ў рамантыкаў, у прыватнасці, у песняра кахання Кнута Гамсуна, але сутнасць была вынашана ім самім у сваім сэрцы. Беспамылковая плынь яго мовы, уласцівая вельмі энергічным і перакананым у сваёй справядлівасці людзям, хвалявала мяне. Я здагадваўся, што сваімі спасылкамі на Ота Вайнінгера я толькі здзекліва разбуру настрой суразмоўцы, пераканаць жа яго — не змагу.

— Ты ж ведаеш у Пушкіна: «але і любоў—мелодыя»! Дык закаханы чуе ўсю паўнагучнасць і гармонію акордаў, што грымяць у навальніцу на небе або ў шторм на моры... Што ліюцца разам са слязьмі пакрыўджанай душы або са смехам натуры, якая прадчувае шчасце. Гэта яшчэ нікім не даследавана навукова, гэта ўсё мы ўспрымаем на ўзроўні эмоцый і толькі шукаем у лагічных сілагізмах штосьці падобнае да таго, чым жывіцца каханы і кахаючы... Бывае, у нашым імкненні бліснуць і неяк вызначыцца перад жанчынай, што прывабіла наш позірк і нашу сімпатыю, абуджаецца і нешта эратычнае. І ў ім адсутнічае пошласць! Вульгарная спрошчанасць набычанай юрлівасці чужая ёй. гэтай чыстай праяве далікатнай эратычнасці... Нячысцік цёмнай заблытанасці і пажадлівых спакус адступае перад такім светлым самаадчуваннем. Яно само ведае, тое самаадчуванне, якія словы і якім позіркам зараз варта глядзець на Яе, каб не пакоўдзіць, не абразіць нямой прапановай аднаго пола іншаму...

Запальваліся ліхтары на Бабруйскай. Гудзеў паравоз недзе пад Козыравам. Рамізнік нешта крыкнуў нам на рагу Міхайлаўскай. Мы ішлі з ім у магнетычным полі мужчынскай гаворкі пра запаветнае пачуццё. У ягонай прамове было штосьці такое, што расхіствала маю пачцівасць да меркаванняў пра «Пол і характар» вучонага мужа. Я верыў мастаку слова! Дух рамантыкі спрыяў гэтаму, бо ён перамагаў і скептыцызм, і гуллівую іронію, прызапашаную мной на пачатку нашай размовы.

Тады, помню, і Джэк Лондан уступіў у рэчышча маналога Б. Мікуліча. Я ведаў, што літаратурную працу ён пачынаў досыць рана, калі не памыляюся, гадоў пятнаццаці, яшчэ вучнем у Бабруйску. Відаць, нешта самае галоўнае ў ім было спадчыннае, ад бацькоў, якія «служылі богу Эскулапу», як ціха прамовіў Барыс. Было і выхаванае ім у сям'і фельчараў і правізараў, якія былі слыннымі ў Бабруйску як заўзятыя кніжнікі і чытачы часопісаў. Хлопцам адчуў цягу да літаратурнай творчасці Барыс. Мабыць, было ў яго ў юнацтве рамантычнае здарэнне або прыгода, і Марцін Ідэн, на якога ён спасылаўся пры нашай размове, памагаў яму схаваць за кніжным прыкладам нешта вельмі асабістае. Прынамсі, ён нагадаў мне, што герой Джэка Лондана (а ён— персанаж аўтабіяграфічны) бачыць дзяўчыну-паненку з блакітнымі вачыма і з капой залатых валасоў як узор хараства.

— Гэта так блізка беларускаму ўяўленню пра хараство дзяўчыны — блакітнае і залатое! — усклікнуў ён. — І Марцін Ідэн параўноўвае яе з бляклa-залатой кветкай на тонкай сцяблінцы... Не, не, гэта не сентыментальны настрой, не таннае замілаванне юнака. Гэта далучэнне да хараства!..

Калі я чытаў прозу Мікуліча, мне часта прыгадваліся тыя ягоныя разважанні пра каханне і хараство пачуцця, здатнага разгарнуць у мужчыны крылы за плячыма. Праз прыгоды і вандраванні праносіць ягоны герой нешта дарагое яму, што замацавалася ў душы пасля сустрэчы з каханай. Гэта неабавязкова тлумачыцца аўтарам ці ягоным персанажам, але жыве і трымціць нават і ў падсвядомасці аднойчы зачараванага.

Проза Барыса Мікуліча сюжэтная, ён умела будуе інтрыгу, якая ўцягвае ў вір падзей даволі яскравыя характары. Калі дзея адбываецца ў сучасным свеце, пісьменнік назіральна і каларытна аднаўляе на старонках сваіх кніг рэаліі жывой рэчаіснасці. Мне асабліва вельмі дарагая аповесць, створаная ў 1934 годзе, —«Дужасць». Вось дзе цябе захапляе прыгодніцкае жыццё героя! Ад слуцкіх хутароў і да Берліна — такая геаграфія вострых і напружаных падзей. Паслярэвалюцыйная пара з грамадзянскай вайной і заблытанымі адносінамі паміж людзьмі, якія шукаюць праўду і сваё месца ў сацыяльных віхурах часу; Германія напярэдадні пераўтварэння яе ў фашысцкую дзяржаву, куды лёс закідвае аднаго з герояў, — такі фон па-жыццёваму пякучых перажыванняў галоўных персанажаў «Дужасці». Дарэчы, і сама назва аповесці сведчыць пра пэўную цікавасць Б. Мікуліча да праблемы «моцнага чалавека», які адчувае ў душы сілы, каб зрабіць сябе годнай і гордай асобай, каб заслужыць прызнанне суайчыннікаў.

Зразумела, гэта было ўспрынята пісьменнікам ад еўрапейскай філасофскай думкі, якая сцвярджала тады, што кожная чалавечая асоба прыходзіць у свет з пэўнай мэтай, з пэўным прызначэннем. У той жа час рэвалюцыйныя зрухі ў Расіі, станаўленне Германскага рэйха, крызіс у ЗША — тое, што вяло свет да другой сусветнай вайны, — нібы аспрэчвала гэты тэзіс. Чалавек — адзінка, падобная да дробненькай пясчынкі ў вірлівым акіяне, і набывае якасці асобы толькі ў натоўпе, у калоне на маршы, у баявым атрадзе на барыкадах, у палітычнай дэманстрацыі на вуліцы, у партыйных шарэнгах.

Як мастак, Б. Мікуліч адчуваў супярэчлівае імкненне вобразна адгукнуцца на гэтую праблематыку, захоўваючы вернасць рэалістычнаму адлюстраванню жыцця. Наконт гэтай супярэчлівасці мы з ім гаварылі даволі падрабязна. Калі я дзяліўся з ім сваімі ўражаннямі ад кнігі апавяданняў «Яхант», ад аповесці «Чорная вірня» ці «Дружба», Барыс згаджаўся, што і сапраўды нашаму пакаленню мастакоў выпала працаваць тады, калі ў творчасці і ў крытыцы пануе абвостраная сацыяльная ацэнка з'яў і асобы, класавы падыход да драматычных калізій у працэсе калектывізацыі вёскі, індустрыяльнай перабудовы эканомікі, патрыятычнага выхавання людзей перад пагрозай фашызму ў сусветным маштабе.

— Гэта таксама складана, як і паказ у літаратуры і ў мастацтве жанчыны, — сказаў мне аднойчы Барыс. — Хочацца апець яе хараство, замілаваць чытача або гледача той жа бляклa-залатой кветкай на тонкай сцяблінцы, але ж вока пісьменніка або жывапісца бачыць у яе і мілыя рабацінкі, і не зусім роўныя зубы... Як славіць прыгожае і не прыніжаць яго поўнай праўдай? Гэта ж датычыцца і спалучэння ідэйнай праўды з жыццёвай...

Думку Б. Мікуліч развіваў, гаворачы пра сацыяльныя канфлікты, якія складаюць істотную дынаміку цяперашніх літаратурных сюжэтаў: «Газа, вядома, карысная рэч і добра гарыць, але яе не льюць у лампаду! Прыемная і дарэчная рэч драўляная смала для абкурвання — ладан, але ж замест ладачу нельга ўжываць не менш духмяны адэкалон!..» Барацьбіт за высокія ідэалы рэвалюцыі можа быць і скваплым або зайздрослівым; пад сцягам жа Булак-Балаховіча можа апынуцца і вельмі далікатны інтэлігент — ці не так?.. Вось і вучышся ўсё жыццё перадаваць у слове асалоду ад слёз або нягоды ад уцех...

Суадносіны ідэальнага і існага ў мастацкім адбітку часу хвалявалі і хвалююць мастакоў. Магчыма, уважлівы чытач кніг Б. Мікуліча адзначыць плённы творчы пошук гармоніі ў гэтых суадносінах, якім пазначаны, як мне здаецца, і ягоныя сучасныя творы, і гістарычныя старонкі прозы. Гартаць іх карысна і павучальна. У мастаку адчуваеш вельмі адукаваную і дапытлівую асобу.

І сапраўды Барыс Мікуліч здзіўляў далягладамі сваіх ведаў. Ён упэўнена разважаў пра прагматызм Мантэня і маральныя парадоксы Ніцшэ, пра абсягі творчай думкі Бальзака і пакутлівае прымірэнне тыранаборства з чалавечнасцю ў абліччы Герцэна, пра глыбіні ленінскіх класавых ацэнак і пра эстэтычныя погляды Янкі Купалы.

Калі Барыс — малады і прыгожы—пазіраваў мне ў маёй майстэрні, я выслухаў процьму анекдотаў, баек, вусных навел. У прыватнасці, ён распавёў мне пра тое, што славуты жывапісец Давід, які сваім пэндзлем славіў Напалеона, здолеў усё ж і выказаць на палатне сваё расчараванне ў вялікім куміры. Мастак пісаў адзін з апошніх партрэтаў Напалеона напярэдадні ягонага пахода ў Расію ў 1812 годзе. Банапарт паказаны ў сваім рабочым кабінеце за важнымі дзяржаўнымі паперамі. Твар яго асветлены свечкай.

Чаму свечкай? Каб паказаць каларытней святло і цені? Або дзеля таго, каб прыхаваць гэтую сытую ўсмешку на тлустым аблічны самазадаволенага і саманадзейнага дыктатара, які пачувае сябе ўладаром ці не ўсёй Еўропы? Прынамсі, партрэт усё гэта перадае.

І як жа да яго паставіўся сам Банапарт? Пахваліў майстра за свечку, якая дагарае, бо ён, імператар, і сапраўды працуе ў гонар велічы Францыі аж глыбока пасля поўначы!.. Схітраваў Банапарт альбо сказаў мастаку праўду? Не мог жа ён не бачыць сваёй фанабэрлівай сытасці ў святле агарка! Загадка...

Потым Мікуліч развіваў думку пра ўзаемаадносіны мастака і ўлады. Разумнік і далікатны чалавек, Барыс, мяркуючы па ўсім, рыхтаваўся да сустрэч і гутарак з людзьмі. Ствараючы ягоны скульптурны партрэт, я адчуў гэта добра. І атрымаўся ён у мяне асобай усхваляванай зместам гаворкі, з добрым напалам душы. Ва ўсякім разе, калі ў майстэрню заходзілі мае госці, пра партрэт Барыса Мікуліча яны першнаперш гаварылі: «Паэт Аляксандр Блок...» У нечым Мікуліч і сапраўды быў падобным да знакамітага расійскага паэта — у жыцці і на маім партрэце. Магчыма, тое падабенства і надало мне смеласці захоўваць партрэт — галава на квадратным брусе — і пасля арышту Барыса аж да сорак першага года. Разбурылі яго ўжо чужынцы з гітлераўскага вермахта, калі нішчылі маю майстэрню.

Ад Барыса Мікуліча я пачуў настойлівую параду ўчытацца ў навелу Праспера Мерымэ «Венера Ільская», якая раней мне падабалася як белетрызаваная казачная гісторыя. У навеле аўтар вядзе аповяд пра тое, як цудоўная антычная бронзавая статуя, знойдзеная аматарам антыкварыятаў, раптам пачынае... умешвацца ў подла наладжанае вяселле хцівага жаніха з даверлівай дзяўчынай. Не варты павагі жаніх аказваецца ў жалезных абдымках статуі. Фантастыка!

— А ці няма тут вялікага сімвалу? Высокае мастацтва Старажытнай Элады ў асобе гэтай Ільскай Венеры здатна папярэдзіць у рэальнасці маральнае злачынства і пакараць злыдня, — так патлумачыў мне сэнс навелы Мерымэ беларускі знаўца літаратурных сакрэтаў Мікуліч.

...Было гэта даўно. Гадоў, мабыць, пяцьдзесят пяць назад. Барыс Міхайлавіч знік з літаратурнага гарызонту разам з многімі ахвярамі незаконных яжоўска-берыеўскіх рэпрэсій у сярэдзіне 30-ых гадоў. Пра сваю лагерна-турэмную «Адысею» ён сам распавёў з такой узрушальнай шчырасцю і настолькі па-мастацку, па-пісьменніцку тонка, што я не магу без слёз чытаць ягоную «Аповесць для сябе». Старонкі дзённіка ў ёй перапляліся з мемуарнымі і з іх паўстае светлы і пакутніцкі вобраз самога гэтага надзвычай прывабнага і таленавітага чалавека.

Пазбаўлены волі, калі яму споўнілася 24 гады, ён не сказаў усяго, на што былі нацэлены ягоны дапытлівы розум і мастацкае светаадчуванне, але і ў напісаным і выдадзеным захоўваецца каштоўны вопыт творчага асэнсавання ў літаратуры вельмі складанай рэчаіснасці з яе заблытанымі і супярэчлівымі сюжэтамі і лёсам.

Постаць Барыса Мікуліча — з незабыўных. Яна не згубіцца і ў гістарычнай адлегласці, бо адбітак яе на ягоных празаічных творах яскравы. Адбітак кранальна змястоўнай —і глыбока чалавечнай асобы Барыса Мікуліча. Я меў гонар быць блізка з ім знаёмым.

**КОНКУРСЫ**

# «Надзея-92... 93... 95...»

Адбыўся конкурс. Конкурс юных талентаў. Яны не пераадольвалі метры, не штурмавалі перашкоды, не змагаліся за секунды. І ўвогуле, нічога паспартыўнаму сенсацыйнага і выбуховага не здарылася, калі не лічыць адной акалічнасці: спаборнічалі паміж сабою людзі XXI стагоддзя, жыхары вольнай і шчаслівай Беларусі. Спаборнічалі ў шчырасці, харастве і гарманічнасці душ і пачуццяў. Натхніў іх на гэта вечна юны, трапяткі і мужны, цнатлівы і адкрыты Максім Багдановіч. Яму быў прысвечаны гэты конкурс, названы «Надзея-92», які быў праведзены ў старажытнай Гародні намаганнямі мясцовых уладаў і абласнога аддзялення Беларускага фонду культуры.

Творчае аблічча паэта паўставала ў гуках інструментальных п'ес, у рамансах і песнях на ягоныя вершы і рабіла такою яснаю і асязальнаю ідэю непарыўнасці культуры, пераемнасці духоўнай спадчыны. Радасна было бачыць, якая шчодрая на таленты наша зямля.

Каля 40 юных кампазітараў. большасць з якіх выступіла і ў ролі выканаўцаў сваіх твораў, удзельнічалі ў гэтым свяце. Большасць з іх была добра падрыхтаваная, і немагчыма было падзяліць удзельнікаў на цэнтр і перыферыю. На роўных выглядалі навучэнцы школ Гародні, Брэста, Барысава, Ваўкавыска, Свіслачы, музычных вучылішчаў Мінска, Ліды, Гародні. Шчырае дзякуй тым настаўнікам і кіраўнікам, якія ў неспакойны, няпэўны час надаюць столькі ўвагі будучыні нашага адраджэння. Шчырымі руплівцамі на гэтай ніве паказалі сябе Кім Цесакоў, Віталь Радзіёнаў, Валерый Карэтнікаў, Міхаіл Васючкоў, Ірына Морых, дырэктар Лідскага музычнага вучылішча Мар'ян Баяровіч, Надзея Труханові з абласнога фонду культуры і Валянціна Мядзведзева з упраўлення культуры аблвыканкома.

Журы назвала пераможцаў, тых, хто сёння выглядае больш стала і прафесійна, і выказала ўпэўненасць, што конкурс «Надзея-92» увойдзе ў біяграфіі вядомых ў блізкай будучыні кампазітараў ды выканаўцаў, — увойдзе як першае паспяховае прафесійнае выпрабаванне.

А на заканчэнне быў канцэрт, у якім прагучалі найбольш яркія творы лаўрэатаў і ўдзельнікаў конкурсу. Запомнім імёны: Славамір Заранок, Алена Андрыяш і Цімур Шчарбакоў з Музычнага ліцэя пры Беларускай акадэміі музыкі; Валерыя Янкоўская з Ваўкавыска, Дзінара Мазітава з Ліды, Сяргей Ярылін і Аляксандра Данышава з Гародні, Расціслаў Крымер і Аксана Амяльчук з Брэста, Таіса Халанава і Ніна Сінякова з Мінска, Насця Рамашэўская з мястэчка Свіслач. Ізноў перад слухачамі перакануча паўставаў вобраз Максіма ў рамансах на ягоныя вершы розных па ўзросце, жыццёвым і прафесійным вопыце, але такіх шчодрых і глыбокіх не па гадах, юных кампазітараў: Ніны Ролік і Яўгена Ларыёнава з Ліды, Наталлі Ціханавай з Барысава, Іны Тарнаўскай з мястэчка Свіслач, Кацярыны Баркацінай з Мінска, Алены Бортнік з Ваўкавыска.

Свята скончылася. Засталася трывога. Што нам трэба рабіць, каб не задзьмуць незнарок першы творчы агеньчык, не астудзіць юную душу, раскрыць яе прыроднае хараство, зберагчы творчы патэнцыял нацыі?

Дзіцячыя садкі й музычныя школы хутка могуць зрабіцца не па кішэні многім з бацькоў, асабліва ў глыбінцы, а менавіта ж там прырода надзіва шчодрая на таленты. Сапраўдных настаўнікаў не хапае, а колькасць навучэнцаў па кампазіцыі скарачаецца. Агульнае становішча культуры не спрыяе прытоку ў яе неабходнай колькасці сапраўды таленавітых людзей.

Я веру, што будзе конкурс «Надзея-93... 94... 95...», і заўсёды будзе надзея. Але рэчаіснасцю яна зробіцца толькі тады, калі дзяржава захавае за сабою абавязак па выхаванні юных талентаў.

У рэшце рэшт, у здзейсненай магчымасці рэалізаваць творчы патэнцыял таленавітай моладзі — адпушчэнне грахоў нашых і апраўданне нашага існавання перад будучыняй нацыі. Няхай жа здзейсняцца мары Максіма Багдановіча пра шчаслівую долю Беларусі.

**Віктар ВОЙЦІК,**
**старшыня журы конкурсу.**
Фота У. ВЫДЗЕРКІ.



Дыпломы лаўрэатам «Надзеі-92» уручае намеснік старшыні абласнога аддзялення фонду культуры Н. ТРУХАНОВІЧ.



Раманс пераможцы конкурсу С. ЗАРАНКА (за фартэпіяна) выконвае А. КАЗАНЦАВА.

Фота У. ВЫДЗЕРКІ.

**НАРОДНЫЯ МАЙСТРЫ**

# ВЫЛЕПІЎ ГАРШЧОК — ШТО ПЕСНЮ ПРАСПЯВАЎ

У Андрэя Нічыпаравіча Кісяля, спадчыннага ганчара з вёскі Гарадная, прыветлівы, добразычлівы твар шчырага чалавека. Вось ён бярэ камячок гліны, кладзе яго на ганчарны круг, рукі майстра рухаюцца лёгка, упэўнена, і толькі па засяроджанасці позірку можна здагадацца аб складанасці працы, — некалькі хвілін, — і з камячка гліны вырастае зграбны, вытанчаны сілуэт акруглага гаршка. Вочы ганчара шчасліва ўсміхаюцца. Вылепіў гаршчок — што песню праспяваў.

— Мабыць, любіце сваю працу? — пытаюся ў Андрэя Нічыпаравіча.

— А як жа, — адказвае майстар, — з ёю і жыць весялей, хоць і клопату шмат. Майстэрні няма, вымушаны працаваць у хаце.

Сапраўды, жыллё ператворана ў майстэрню: ва ўсіх пакоях да бэлек столі прымацаваны паліцы, на якіх сушацца вырабы, прасушаныя ахайненька складзены ў адным з куточкаў.

— Жонка хоць і рупіць, што праз гаршкі ніколі парадку ў хаце не дабіцца, — працягвае гаспадар, — але нічога, сама ж і дапамагае.

Па сведчанні майстра, на працягу дня ён, у сярэднім, выточвае 30—40 вырабаў: пару дзён працуе за ганчарным кругам, пару — займаецца іншай працай; абпальвае вырабы ў горане, размешчаным у канцы агарода, тры разы на год (горан умяшчае 350—400 адзінак); свінец для паліва здабывае са старых акумулятараў; збывае кераміку сам — развозіць пад Столін, Пінск.

— Праз тое, што займаюся гандлем, — адзначае Андрэй Нічыпаравіч, — мяне жонка іншы раз цыганом празывае, — і, цяжка ўздыхнуўшы, дадае. — Сумна, што дзеці авалодаць майстэрствам не хочуць. Не паважае моладзь працу ганчара, ці гаршэчніка, як у нас кажуць, бо сродкі для жыцця лягчэй здабыць на якой іншай працы, а ў ганчароў клопату шмат.

Сапраўды, клопату шмат: амаль першабытны спосаб нарыхтоўкі гліны, адсутнасць асобных майстэрняў, цяжкасці ў пытаннях прыгатавання палівы, збыту прадукцыі.

Андрэй Нічыпаравіч памятае розныя часы. Значна скараціўся промысел пасля вайны. Спробы майстроў аб'яднацца ў 1961 годзе ў арцель, спробы Пінскай фабрыкі мастацкіх вырабаў двойчы, у 60-х і 80-х гадах, наладзіць сувязі з гараднянскімі ганчарамі засталіся без належных вынікаў.



Сёння лёс промыслу ў Гараднай не можа не хваляваць. Наведваюцца да ганчароў даследчыкі, з'яўляецца кераміка на выставах, набываюць яе музеі, але аб змястоўнай дапамозе ў развіцці промыслу застаецца толькі марыць. Пакуль што жыве самабытнае рамяство, але жыве яно ў складаных умовах, і паўстае ў гэтым жыцці балючая праблема выжывання.

Вядома, што белагліняная кераміка выраблялася ў Гараднай, старажытным паселішчы Пінскага Палесся, яшчэ ў сярэднявеччы. Гэтаму спрыяла наяўнасць вакол паселішча буйнейшых у Беларусі залежаў высокагатунковых тугаплаўкіх каалінавых глін. Традыцыі вытворчасці не перарываліся і ў наступных стагоддзях. У канцы XIX — пач. XX ст. Гарадная — адзін з буйнейшых ганчарных цэнтраў на Беларусі. У 20—30-х гадах XX стагоддзя тут працавала 500 ганчароў.

Даследчыкі народных промыслаў аднадушна адзначаюць арыгінальнасць, дасканаласць, традыцыйнасць форм і дэкору гараднянскай керамікі пачатку XX ст. Мастацтвазнаўца Я. Сахута трапна параўноўвае яе з антычным посудам, аналогіі прасочваюцца ў характары мацавання вушак, у дасканаласці форм вырабаў. Выразныя мастацкія формы падкрэсліваліся дэкорам з чырвонай жалезістай гліны.

З канца 30-х гадоў XX ст. белагліняную кераміку пачаў выцясняць глазураваны посуд. Паступова знік ангобны роспіс. Формы вырабаў значна здрабнелі, але ў цэлым рамяство застаецца традыцыйным.

Зараз у Гараднай працуе каля дзесятка майстроў: Кісель Андрэй Нічыпаравіч (1928 г. н.), Мацук Адам Рыгоравіч (1929), Гмыр Сцяпан Дарафеевіч (1928), Шэлест Арсень Васільевіч (1936), Міраповіч Мікалай Ермалаевіч, Вячорка Аляксандр Паўлавіч (1923), Палешка Мікалай Андрэевіч (1927) і іншыя. Вырабляюць ганчары гаршкі трох гатункаў, збанкі (глечыкі), міскі, вазоннікі, на заказ — гляkі (бунькі), дробны дэкаратыўны посуд.

Хочацца спадзявацца, што Гарадную ў будучым не напаткае лёс загінуўшых мастацкіх цэнтраў, што знойдуцца ў беларускай дзяржавы сілы, якія нададуць гэтаму самабытнаму ганчарнаму цэнтру Палесся новае жыццё.

**У. ШАСТАВЕЦ.**

# РАЎЧУК, ЯКІ ЎЛІЎСЯ Ў РАКУ

## Пра адзін інстытуцкі выпуск

1.

ЗВЫШЫНІ пражытага веку мне астаецца з сябе таго, васемнаццацігадовага, адно запознена пакпіць. Якой жа я быў дурной зялепухай! Займеў гонар пагаварыць з самім Міровічам, а з кім размаўляю, каму задаю, як цяпер разумею, наіўныя школьныя пытанні, не цяміў, не ўяўляў і блізка. Ах, туды б, у прадвесне сорак шостага, маю дасведчанасць сённяшнюю! Выкарыстаўшы нагоду, уга колькі б паспрабаваў з Еўсцігнея Афінагенавіча выцягнуць. І пра бытаванне яго модным вадэвілістам у перадрэвалюцыйным піцерскім тэатральна-літаратурным асяроддзі. І пра тое, чаму так здарылася, што менавіта яму, Міровічу, выпала ўзначаліць першы беларускі творчы арганізм, сённяшні славуты купалаўскі тэатр, калі на пачатку дваццатых гадоў мінская аматарская драматычная суполка «Беларуская хатка» атрымала статус прафесійнага драматычнага калектыву. І пра рыфы, на якія натрапляў флагман нашага нацыянальнага тэатральнага мастацтва, калі стаяў мой шаноўны суразмоўнік на яго капітанскім мосціку. І пра шмат што яшчэ.

Але для такой гаворкі, паўтараю, быў я тады слабак. Ды і для той канкрэтнай, дзеля якой з блакноцікам і самапіскай апынуўся каля патрыярха нашай сцэны — белагаловага, сухарлявага, са стомленымі трошкі выцвілымі вачмі, цярпліва-ветлівага, стрыманага ў жэстах, ва ўсёй манеры трымацца, мала падобнага на сябе таго, што цяпер на мемарыяльнай дошцы на будынку Беларускай акадэміі мастацтваў,—для той гаворкі таксама, зноў-такі сёння разумею, амуніцыі меў небагата.

Быў я першакурснікам універсітэта і трэці месяц нечым накшталт хранікёра ў штаце рэдакцыі «ЛіМа». Гадзіна-другая размовы з Міровічам у мяне надарылася таму, што, выконваючы рэдакцыйнае даручэнне, я прыйшоў у новаадкрытую ў горадзе навучальную ўстанову—тэатральны інстытут. Еўсцігней Афінагенавіч быў адным з усяго толькі двух на той час педагогаў, што вучылі тут студэнтаў акцёрскаму майстэрству.

Ільвіная частка кантор і арганізацый, якія забяспечвалі жыццядзейнасць у рэспубліцы драматычнага і музычнага мастацтваў, уціснута была тады—горад жа чарнеў каробкамі згарэлых камяніц і руінамі—у закуліссе ацалелага гмаху опернага. Месціўся тут у некалькіх пакойчыках і наваствораны гадавальнік заўтрашняга дня беларускай Мельпамены.

Не помню ўжо, каго са студэнтаў, пазней сваіх сяброў, прыяцеляў, проста знаёмых, з якімі рады буду вітацца, убачыў тады ў групе Міровіча, а каго—у групе дацэнта Новака, другога інстытуцкага выкладчыка асноў акцёрскай прафесіі. Помню толькі, у абедзвюх групах я па-неафіцку ўсяму на занятках дзівіўся, стараўся па-болей занатаваць у блакноціку з тэрміналогіі, якая ў аўдыторыях гучала,—надта ж для навадалучанага вабна-таямнічымі былі азначэнні накшталт «эцюд», «псіхафізічныя дадзеныя», «прапануемыя акалічнасці»! І помню, развітваючыся, саманадзейна насмеліўся выказацца наконт аднаго з Міровічавых навучэнцаў, асабліва, мне падалося, выразнага ў прыдуманым складаным эцюдзе, што гэты пшанічна-чупрыністы прыгажун можа вырасці ў будучага Крыловіча. Еўсцігней Афінагенавіч змоўчаў, але ў яго далікатнай усмешцы я прачытаў гаркавае: не ведаеш ты, хлопча, што гэта за непрадказальнае, зманлівае з'явішча — —доля артыста!..

2.

Да дыпломных спектакляў гэты курс, як помніцца, дайшоў малалікім. Асталося, калі памяць не ашуквае, чалавек чатырнаццаць—пятнаццаць апантаных. Што зробіш, гэта непазбежная рэч у навучальных установах такога профілю—адсеў навучэнцаў на этапах авалодання спецыяльнасцю. Найчасцей з драматычнай прычыны, што выявілася студэнтам падчас навучання меншая, чым убачылася экзаменатарам пры пачатковым з ім знаёмстве, прыродная здатнасць да выгледжанай у салодкіх юначых мроях прафесіі. Але што гэтыя, з першага набору, хто астаўся, хто даведзены быў усё больш строгімі настаўнікамі да апошняга інстытуцкага года і вечарам, куды я пераношуся, вечарам халоднага мая сорак дзевятага даказвалі сваю падрыхтаванасць да выбранай жыццёвай справы ўдзелам у тых дыпломных пастаноўках,—што яны акцёрскі цэх папоўняць па праву і для ўсіх іх прызванне, безумоўна, сцэна, здавалася несумненным.

**Не помню, каб калі пазней паказу інстытуцкіх дыпломных спектакляў быў нададзены такі ж сур'ёзны «статус», як тым —першага выпуску. Тыя іграліся некалькі дзён на сцэне купалаўскага тэатра—паказваліся самаму шырокаму гледачу з продажам білетаў, абмяркоўваліся і ацэньваліся не адно членамі дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі і да т.п.**

**Але я бачыў іх не ў святле купалаўскіх сафітаў, а, відаць, у часе папярэдніх прагонаў. Недзе на самым версе, ці не пад самым дахам нашага опернага, набітага ўстановамі-бяздомкамі яшчэ і на чацвёртай ад вайны вясне, пастаўлены былі ўслоны, крэслы, табурэткі для гледачоў, саматугам выгараджана плошча, якую мелася лічыць падмосткамі. І ва ўмовах такога вось аматарства разгортваліся падзеі складанай, патрабавальнай да выканаўцаў драматургіі. Дыпломных спектакляў было, здаецца, больш, але ў мяне перад вачамі тыя, якія бачыў,—паводле горкаўскіх «Мяшчан» і паводле колькі дзесяцігоддзяў знакамітай п'есы Лаўранёва «Разлом».**

**Хлопцаў і дзяўчат, што ступілі тады на парог таго, аб чым марылі, не падмяла гэтая складанасць драматургіі. У смузе далечы не размыўся, напрыклад, абрыс постаці сажнёвага росту Івана Ганусевіча, чыім грымотным голасам Бессяменаў з «Мяшчан» кідаў горкія словы крыўды і папроку няўдзячнаму непакору гадаванцу Нілу. І на вачах зацята сцінаецца не асілак з выгляду, але адчувальна моцны нутром Ніл, якому і шкада старога ў яго неразуменні ўсяго, што адбываецца, і нясцерп болей жыць законамі яго дома,—у ролі пераканаўчы, выразны быў Саша Бутакоў. І заломвае рукі, кідаецца з кута ў кут выгарадкі, не могучы цягнуць далей апрыклае існаванне, Таццяна—тут, як гаворыцца, на вышыні была Эльвіра Герасімовіч. І сыпле кепікамі і падкуснамі філосаф Цецераў—у жыцці таксама іранічны, трошкі афектаваны Ілья Эдальман, будучы Курган.**

**Як у кадрах старой, зразумела, чорна-белай кінахронікі—і дзейныя асобы «Разлома». Стрыманы ў рухах, няхуткі на слова Віктар Карпілаў у кіцелі капітана Бярсенева. Зноў Эльвіра Герасімовіч, Таццянай яна і тут, але іншай—разумнай, рашучай, мужнай перад непазбежнасцю крушэння свету, у якім жыла, старэйшай дачкой Бярсенева. І зноў Аляксандр Бутакоў—цяпер ён змяюка Штубе, з якім Таццяна разрывае. І па-балетнаму тоненькая Рая Сакалова — Ксенія, малодшая Бярсеневых, раздуранае, спешчанае зверанё, якому няўцям, што яно робіць...**

Іх будучыня здавалася, паўтараю, бясспрэчнай: акцёрамі яны хацелі стаць, акцёрамі яны сталі. На той час яшчэ не разумеў я, што сама празорлівая мудрасць была ў скептычнай, хоць і далікатнай усмешцы Міровіча, калі вырвалася ў мяне пры ім нешта адносна безумоўнай зорнай будучыні аднаго з убачаных у яго першакурснікаў. Скепсіс белагаловага мудраца спраўдзіўся. Так сталася, што з першага выпуску Беларускага тэатральнага інстытута мала, вельмі мала каму выпаў у жыцці непасрэдна акцёрскі лёс.

Бываючы ў нядаўнія гады ў пісьменніцкім Доме творчасці на Рыжскім узбярэжжы, я, здаралася, сустракаўся там з украінскім паэтам і празаікам Багданам Чалым. Зрэшты, часам ён наведваўся і ў Мінск. Дык сярод першых пытанняў я задаваў яму звычайна пытанні пра жонку. Што яна рэпеціруе? Ці задаволена тым, што робіць? Ці густа занятая ў рэпертуары наогул? Жонкай Багдана Восіпавіча стала Дзіна Шпакава—з ліку тых, пра каго гэты мой расповяд. Пасля інстытута працавала яна некалькі сезонаў у коласаўскім тэатры. Працавала паспяхова, помню яе ў цэнтральнай ролі ў спектаклі «Напярэдадні» паводле Тургенева, які коласаўцы паказвалі ў Мінску. Тут з ёю, мне расказвалі, Чалы і пазнаёміўся. Прозвішча Шпакава ў выніку з афіш віцебскага тэатра знікла, затое на афішах Кіеўскага тэатра юнага гледача пачало з'яўляцца прозвішча Чалая.

У тэатры, які пасля вайны асталяваўся быў у Пінску, а потым перабраўся ў Магілёў, падчас журналісцкіх сваіх туды наездаў я неаднойчы бачыў на сцэне Раісу Сакалову. Адчувалася на пачатку пры размовах з ёю, што трапяткой яе існасці цяжкавата ў жорсткіх перыферыйных тэатральных буднях. Але стрывала, з годнасцю ўвайшла ў тым тэатры ў чалавечую і прафесійную сталасць.

У газетных інфармацыях і рэцэнзіях у розныя гады сустракаў я добрае слова пра Людмілу Федчанку, актрысу тэатра ў Бабруйску.

Вось, здаецца, і ўсе з таго выпуску, чыё жыццё ў мастацтве склалася адпаведна запісу аб спецыяльнасці ў атрыманых па заканчэнні інстытута дыпломах. А пачыналі пасляінстытуцкую дарогу, як і мерыліся, акцёрамі каго ні вазьмі. У згаданым спектаклі коласаўцаў «Напярэдадні» помню яшчэ Уладзіміра Станкевіча. Тамсама ў трупе някепска заявілі пра сябе Іван Ганусевіч, Аляксандр Гутковіч. Быўшы на пачатку пяцідзесятых у камандзіроўцы ў Полацку, згледзеў у афішах Даўгаўпілскага тэатра, што завітаў туды на кароткія гастролі, імя Віктара Карпілава,—вядома, тым жа вечарам сядзеў у яго ў грымёрцы. Ведаў, што Курган і яшчэ нехта з курса —ва ўтворанай пры філармоніі перасоўнай драматычнай трупе.

Надта задушлівая атмасфера панавала той парой у творчых установах. Мала яна натхняла, хутчэй абяскрыльвала акцёраў-пачаткоўцаў. Чым болей у друку і на паказушных нарадах крычалася пра неабходнасць дбаць у мастацтве пра змену, тым праблема ў большую вырастала. А калі дадаць яшчэ пра жабрачыя грошы, на якія прыходзілі ў штат тэатраў маладыя, дык і зусім не дзіўна, што большасць тых, пра каго ўспамінаю, там тады не затрымалася.

3.

Частка іх стала тэатразнаўцамі і педагогамі.

**Гадоў дваццаць назад быў у Мінску адзін адметны вадзіцель тралейбуса. З харошых дзівакоў, якія ўпрыгожваюць свет. Сеўшы да яго ў электравагон, пасажыры траплялі заадно на экскурсію. Праз мікрафон вадзіцель не толькі абвяшчаў прыпынкі, а і даваў трошкі звестак пра месца, дзе праходзіла машына: чаму яно атрымала сваю назву, чым адметны будынак за вокнамі. Праязджаючы* паўз корпус тэатральна-мастацкага інстытута — цяперашняй акадэміі мастацтваў, —вадзіцель паведамляў:**

**— Рэктарам інстытута працуе Эльвіра Пятроўна Герасімовіч, якая некалі атрымала тут дыплом нумар адзін.**

**Эфектна, ці ж не праўда!**

З дыпломам актрысы апынулася Герасімовіч не ў закуліссі, а ў кабінеце сакратара аднаго са сталічных райкамаў камсамола. Пазней—у апараце ЦК КПБ. Але, да гонару яе, і ў чыноўныя гады святлом у аконцы заставалася ёй магчымасць не адрывацца ад тэатра прафесійна, нават не выходзячы на сцэну. Адсюль была ў жыцці аспірантура адпаведнага ўхілу, потым абарона кандыдацкай дысертацыі. Адсюль вынікла спалучэнне папярова-тэлефонна-пасяджэнцкага тлуму ў партыйнай цытадэлі з гадзінамі педагагічнай работы ў родным інстытуце. Адсюль, нарэшце, падстава для зробленай ёй прапановы стаць рэктарам роднай альма-матэр, калі гэтае акцёрскае, а на той час ужо і мастакоўскае гняздо разраслося і яго нельга ўжо было параўнаць з тым, што тулілася ў некалькіх пакойчыках пад дахам опернага.

Рэктарам Герасімовіч пацягнула далей, чым усе, хто быў на гэтай пасадзе тут да яе і пасля яе,—васемнаццаць гадоў. Магу сказаць, я з прыемнасцю слухаў яе выступленні на з'ездах тэатральнага таварыства, на розных нарадах, што тычыліся і клопатаў інстытута. Гэта былі заўсёды выступленні кампетэнтнага, з моцным характарам чалавека. Нападкі на сябе—а іх хапала, прытым часта няслушных, прадыктаваных не самымі чыстымі матывамі,—адбівала ўмела, пераканаўча, дасціпна. І здолела далучыць у гады свае работы да выхавання будучых акцёраў і мастакоў цвет беларускага мастацтва. Са сцэн інстытута выйшла пры ёй, прынамсі, нямала тых, хто нясе сёння ў рэспубліцы на тэатральнай сцэне галоўную службу.

Не спакусіла перспектыва апаратнай кар'еры і Аляксандра Бутакова. Кадравікі сістэмы і на яго было кінулі вока: франтавік, партыец з ваеннага часу, самым лепшым чынам характарызуецца інстытуцкай адміністрацыяй, бездакорны, зноў-такі, паводле пунктаў анкеты—чаму такога не займець у рэзерве наменклатуры? Таму пасядзеў інструктарам ЦК і ён. Папісаў дакладныя, праекты пастаноў ды прамовы начальству. Пачытаў ананімныя ды з подпісамі даносы, падзівіўся, прымаючы просьбітаў, наіўнасці адных і настырнасці другіх. Але і здолеў хутка абараніць тэатразнаўчую дысертацыю, выпусціць яе кніжкай, пачаў выкладаць у інстытуце, дзе нядаўна вучыўся. Прайшоўшы, як праз этапы вызвалення ад нялюбага яму службоўства, праз гады прарэктарства і дэканства, атрымаў нарэшце магчымасць усёй душой аддацца непасрэдна настаўніцтву, да якога адчувае ў сабе прыродную прызванасць. Перадае гадаванцам тое, што спасцігаў калісь у Міровіча, радуецца, калі бачыць плён, засмучаецца, калі зерне яўна падае на камень. Ставячы са студэнтамі Горкага, Астроўскага, Быкава, прышчапляе ім густ да глыбіннага чалавеказнаўства, да таго, што на сцэне вечнае.



Так выглядалі першыя выпускнікі нашага тэатральнага інстытута ў свае апошнія студэнцкія дні. На ўспамін пра развітанне з інстытуцкімі сценамі сфатаграфаваліся яны ў ліпені 1949 года з членамі дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі, якая благаславіла іх на акцёрскае жыццё. У складзе камісіі былі найаўтарытэтныя тады ў тэатральным мастацтве Беларусі майстры. На здымку яны ў першым радзе: знакаміты Д. Арлоў з тэатра імя Горкага (другі злева), слынныя купалаўцы К. Саннікаў і У. Уладамірскі (чацвёрты і пяты злева), галоўны рэжысёр тэатра оперы і балета Б. Мардзвінаў (крайні справа). А з моладзі назавём згаданых тут у публікацыі — спадзяёмся, неназваныя даруюць. У другім радзе злева направа: Р. Сакалова, Д. Шпакава, А. Лабовіч, шосты і сёмая — А. Гутковіч і Л. Федчанка, трое на заканчэнне раду — Э. Герасімовіч, Л. Андрэева, Т. Старасценка. У трэцім радзе другі злева І. Курган, наступныя У. Станкевіч, А. Бутакоў, І. Ганусевіч, крайні справа В. Карпілаў.

Я ж, сустракаючыся часам з Сашам Бутаковым, з прыемнасцю пазнаю ў ім цяперашнім таго, якога помню ў лейтэнанцкім шыняльку без пагонаў на сцюжных вуліцах Мінска зімы сорак шостага. І радуюся, што і ён, і Эльвіра Герасімовіч, і іхні аднакашнік Арсен Лабовіч, які таксама сёння паважаны педагог-тэатразнаўца, на прынаду, вельмі салодкую для слабейшых, усё-такі не паквапіліся, засталіся вернымі таму, чаму, не дэкларуючы, прысягнулі ў маладосці.

### 4.

На гады, калі гэтая купка пачаткоўцаў-акцёраў, учора яшчэ паядналых агульнай марай злавіць пяро жар-птушкі менавіта ў тэатры, на жыццёвым раздарожжы разбрылася і стала спускацца з нябёсаў на зямлю, прыпадаюць першыя крокі нашага тэлебачання. І натуральна, што некага з іх мігценне блакітнага экрана прывабіла: новая муза дэкларавала невымерныя, усеабдымныя магчымасці для творчай самарэалізацыі. Цяпер, праз дзесяцігоддзі, з тых пачынальнікаў асваення тэлецаліны хто пенсіянернічае, а хто ўжо і нябожчык. Але ўклад іх у станаўленне Беларускага тэлебачання такі важкі, што не будзе перабольшаннем сказаць: ягоны высокі на некароткім этапе аўтарытэт на прасцягах усяго былога Савецкага Саюза абапіраўся шмат у чым, можа, нават перш за ўсё на зробленае імі, маімі даўнімі знаёмцамі.

Да месца тут добрае слова пра кожнага. Пра Івана Ганусевіча, якога ўжо няма: ён доўга быў галоўным рэжысёрам рэдакцыі прапаганды і ў рукі яму трапляў часцяком цяжкі, малапрыдатны для экраннага ўвасаблення сцэнарны матэрыял, —як мог, як дазвалялася пасадай і заваяванай рэпутацыяй, ён стараўся аберагаць гледачоў ад бяздушнай дэкларатыўнасці, цынічнага фальшу, пампезнасці. Пра Уладзіміра Станкевіча, шматгадовага галоўнага рэжысёра ўсяе рэспубліканскай студыі, кіраўніка службы, у якой мець справу даводзіцца з народам эмацыянальным, амбіцыёзным, крыўдлівым, службы, дзе трэба быць у дадатак вынаходлівым дыспетчарам, дзе штодня і адусюль чакай падвоху,—і ён з усім спраўляўся, выяўляў сябе з найлепшага боку, ды яшчэ не адрываўся ад занятку творчага, працягваў працаваць як рэжысёр-пастаноўшчык, рыхтаваць і весці перадачы. Пра Віктара Карпілава і Аляксандра Гутковіча, шмат што са створанага якімі—здабытак залатога фонду беларускага, больш таго, усяго нядаўна агульнага савецкага тэлебачання.

Я прыгадваў ужо выпадковую сустрэчу з Карпілавым у Полацку на пачатку пяцідзесятых гадоў. Помніцца сярод іншага з праведзеных тады разам, здаецца, двух вечароў трошкі сарамлівы гонар, з якім паказаў ён мне афішу, дзе пазначана было, што ён, Карпілаў,—асістэнт пастаноўшчыка афішаванага спектакля. Рэжысёр, значыць, праклюнуўся яшчэ ў Карпілаве-акцёры, яшчэ ў тэатры. Рэжысёр, які на тэлебачанні стаў масцітым, заслужыў прызнанне адметным экранным прачытаннем Горкага і Гаўптмана, Астроўскага і Расіна, Аляксея Талстога і Шамякіна, Купалы і Міровіча, Караткевіча і Губарэвіча, колькіх яшчэ даўнейшых і сучасных аўтараў.

Ці не першае было ў яго рэжысёрскім абліччы—цікавасць да драматургіі, з выкарыстання на сцэне і экране да таго як бы спісанай. Так, помню, на колькі секунд я знямеў ад здзіўлення, пачуўшы ад Віктара, што надумаў ён і звярнуўся да кіраўніцтва з такой прапановай—ставіць «Федру» Расіна. Адзін з тытанаў класіцызму Расін? Семнаццатае стагоддзе? Антычны міф? Гэта ў час, калі ў газетах з дня ў дзень трубяць аб перспектывах развітога сацыялізму? Калі начальства чакае ад цябе заяўкі на інсцэнізацыю чаго-небудзь накшталт эпахальнай брэжнеўскай «Цаліны»?

— Разумееш, ёсць актрыса. Учора здымаць яе ў гэтай ролі было б рана, заўтра будзе позна. Давідовіч,—сказаў ён, нібы апраўдваючыся. Відаць, здзіўлены яго ідэяй быў не адзін я.

**Размова гэтая, калі я быў ужо трохі пра яе забыўся, займела нечаканы забаўны працяг. Мне пазванілі з аднаго з кабінетаў, праз які ў Дзяржтэлерадыё праходзіла афармленне фінансавых адносін з аўтарамі,—я працаваў на радыё, а яно было з тэлебачаннем у адной адміністрацыйнай спрэжцы.**

**— Уладзімір Львовіч, вы не ведаеце часам такога Рáсіна?**

**Рáсіна? Напружыў мазгі, вылічваючы, каго з нашага аўтарскага актыву маглі мець на ўвазе на процілеглым канцы провада. Знаёмага журналіста Росіна? Маскоўскага сатырыка Раскіна?**

**— А што ў вас да яго?**

**— Ды заказвае тэлебачанне пераклад. Прозвішча пісьменніка Рáсін. А дакумента, што ён згодны на пераклад твора на беларускую мову, няма.**

**Усё мне стала зразумела. Адказаў, што звязацца з гэтым драматургам цяжкавата. Але спаганяць з нашага ведамства грошы за выкарыстанне свайго твора ён не будзе.**

**А недзе праз год павіншаваў Карпілава з прэм'ерай—неардынарнай, з харошым трагедыйным напалам, хоць і не ўсё ў спектаклі ўдалося...**

Аляксандр Гутковіч таксама яшчэ акцёрам, яшчэ ў складзе коласаўскай трупы пачаў выяўляць сваю схільнасць да рэжысёрства, спрабаваць пяро ў драматургіі. Як драматург сцвердзіў сябе з гадамі, інсцэніраваўшы для розных тэатраў Граніна, Чорнага, Броўку, напісаўшы і давёўшы да сцэны некалькі арыгінальных п'ес, стаўшы членам Саюза пісьменнікаў. Але найперш ён, безумоўна, зрабіў сабе імя як майстар тэлевізійнай рэжысуры.

У сваёй айчыне прарокаў няма, гэта аксіёма. Ды ўсё-такі цяпер, калі Гутковічу не пачуць ні хвалы, ні ганьбавання, скажам пра чалавека тое, што заслужыў, што лепей, вядома, было б сказаць яму жывому. Як ні цяжка з тым некаму пагадзіцца, прызнаем, што ў гісторыі Беларускага тэлебачання быў тэатр Аляксандра Гутковіча. З'ява пакуль што ў гэтай галіне ў нас вышынная, нікім з калегаў і наступнікаў майстра непераўзыдзеная.

Пры сістэме, у якой мы столькі пражылі, творчыя людзі дзяліліся на тых, хто дасягаў нечага дзякуючы ёй, сістэме, і на тых, хто насуперак ёй. Гутковіч быў з ліку тых, хто насуперак. Адчувалася па ўсім, сістэма моршчылася, сама сябе са скрыпам пераадольвала, згаджаючыся адносна яго на нейкі знак прызнання,—не тая ў чалавека анкета, не той, як сёння модна гаварыць, менталітэт.

Дзівоснай сугучнасцю з Мележавым раманам, з яго шчымлівай інтанацыяй, з напоўненасцю яго вобразаў уразілі перанесеныя Гутковічам на тэлеэкран «Людзі на балоце»—на год раней, чым з гэтымі ж акцёрамі пастаўлены быў славуты спектакль купалаўскага тэатра, а не наадварот, як тое напісана ў адной кніжцы пра тэлебачанне. У гадзіны, калі перадаваўся яго серыял «Уся каралеўская раць» паводле рамана Уорэна, у краіне ад Брэста да Уладзівастока пусцелі вуліцы гарадоў. Мільёны людзей і цяпер не могуць адарвацца ад экрана, калі паказваецца серыял «Атланты і карыятыды»—тэлевізійная версія рамана Шамякіна. А галоўнаму стваральніку гэтых і іншых работ, што прынеслі тэлебачанню рэспублікі важкія маральныя дывідэнды, усё даводзілася прадзірацца праз незычлівасць, насцярожанасць, непрыязнасць як тых, хто вышэй, так і тых, хто побач.

Каб жа мы хоць трохі разумнелі, мудрэлі, помнячы, што кожны з нас на гэтым свеце — госць! Не разумнеем, не мудрэем.

### 5.

Прыйшоўшы ў сярэдзіне сямідзесятых у штат радыё, я застаў тут са «свайго», дазволю сабе так сказаць, выпуску тэатральшчыкаў трох. Рэжысавала ў адной з эканамічных рэдакцый Тамара Старасценка. Манументальная, як імператрыца Кацярына на помніку ў Піцеры, уплывала ў студыі Лідзія Андрэева, таксама рэжысёрка. І прабягаў, заўсёды, здавалася, ледзь паспяваючы, «паўставачны» Ілья Курган — «паўставачны», бо асноўным месцам працы і для яго на той час ужо стала дацэнства ў інстытуце, дзе калісь вучыўся. Цяпер ён там—прафесар.

Дыктар—прафесія з тых, не якую выбіраюць, а якая выбірае. Выбраўшы на пачатку пяцідзесятых сабе на службу акцёра перасоўнага тэатрыка пры філармоніі Кургана, прафесія гэтая, што называецца, пацэліла ў дзесятку. Багацце і гнуткасць галасавога тэмбру, артыстызм, прыродная абаяльнасць натуры, інтэлект вельмі хутка зрабілі яго прафесіяналам самага высокага класа.

Так, радыё слухаюць мільёны. Але слухаюць паасобку, часам у кампаніі з сям'ёй, з сябрамі. Павінна перадавацца надзвычайнае, каб ля прыёмніка ці рэпрадуктара сабраўся натоўп. Разумны дыктар таму імкнецца нават матэрыял афіцыйны, дзелавы, менш за ўсё адрасаваны эмоцыям, падаваць у танальнасці даверлівай размовы, як бы чытаючы яго таварышу, што сядзіць побач. Імкнецца да гэтага кожны, атрымліваецца не ў кожнага. У Кургана—атрымлівалася.

А колькі ў фондах радыё спектакляў з яго ўдзелам, памайстэрску прачытанай ім паэзіі, харошай прозы! Удзел у мастацкіх перадачах прыносіў асалоду самому, прыносіў асалоду слухачам. Пра гэта можна меркаваць хоць па мностве пісьмаў-водгукаў, якія ён атрымліваў.

І на радыё, і на тэлебачанні кожны дыктар—вынік штучнай, а не серыйнай падрыхтоўкі. У навучальных установах гэтай прафесіі, наколькі я ведаю, не навучаюць, дыктараў патрэбна ўсё-такі менш, чым слесараў. Але я чуў ад тых, хто да яе далучаны, словазлучэнне «школа Кургана». Гаварылася гэта не пра выкладчыцкую дзейнасць Кургана ў інстытуце, дзе ён—адзін з любімых у студэнцкім асяроддзі педагогаў, а пра ўздзеянне яго на людзей, што разам з ім працавалі на радыё. Вучаць жа не толькі праводзячы заняткі, хоць памагаў ён калегам і займаючыся з імі,—вучаць яшчэ прыкладам, зададзеным узроўнем. Толькі наканоўваецца гэта лепшым—задаваць узровень.

### 6.

Звяртаючыся да гісторыі нашай культуры, мы ўспамінаем не толькі саму шырокую яе плынь, а і большыя і меншыя раўчукі, часам ручаінкі, якія ў яе ўліваліся, якія разам плынь гэтую і стварылі.

Я расказаў пра тое, як склаўся лёс першага выпуску Беларускага тэатральнага інстытута. На фінішы азірнуўся на яго старт, на пройдзеную ім дарогу. Гэтай дарогі мала не паўстагоддзя, і якога паўстагоддзя! Яны ж з пакалення драматычнага лёсу, равеснікі, якіх прыгадаў, купка працаўнікоў нашага мастацтва, што пачыналі разам. Тое, на што нейкалі маліліся, сёння ў анекдотах. Колісь ерэтычнае — у славе і пашане...

Ды якія б вакол ні адбываліся змены, як ні перакручваліся б у кожнага ўласныя акалічнасці, у працы сваёй, у памкненнях, у творчасці, у тым, што лічылі запаветным, заставаліся яны сумленнымі і шчырымі. Як сведку, мне і захацелася пра гэта сказаць.

**Уладзімір МЕХАЎ.**

**З ПОШТЫ «ЛіМа»**

## СВЯДОМАЕ ЛЁКАЙСТВА ЦІ ВЕКАВЕЧНЫ СЕРВІЛІЗМ?

Апошнім часам з'явілася досыць кніжак, прысвечаных беларускай нацыянальнай тэматыцы. І кнігі добрыя і цікавыя, і цаною, пакуль што, дасяжныя.

Але ўсё ж псуе настрой рабскае афармленне кніг.

Чамусьці ва ўсіх без вынятку: Браніслаў Тарашкевіч, «Выбранае», «Мастацкая літаратура», 1991; Янка Купала, «Спадчына», Беларускае кааперацыйна-выдавецкае таварыства «Адраджэнне», Менск, 1922, «Мастацкая літаратура», 1992; Наталья Арсеньева, «Пад сінім небам», Вільня, 1927, «Мастацкая літаратура», 1992; Уладзімір Караткевіч, «Зямля пад белымі крыжамі», «Народная асвета», 1992 — у гэтых і шмат якіх яшчэ кніжках ці то анатацыі, ці то выхадныя дадзеныя пададзены на рускай мове.

Усё гэта надта нагадвае той выпадак з рамана Г. Маркеса «Сто год адзіноты», калі, захварэўшы на страту памяці, жыхары Маконды мусілі падпісаць усе рэчы і жывёлу, як яны называюцца і што з імі рабіць.

Дарэчы, у кніжак, выдадзеных па-руску (Т. Короткая і інш., «Старообрядчество в Белоруссии», «Навука і тэхніка», 1992, П. А. Русов, «Деревянные сооружения Менска XIII—XVIII вв.», «Навука і тэхніка», 1992), аналагічных дадзеных па-беларуску няма. Ці не дыскрымінацыя нашае мовы?! Нават у беларускай расхваленай паштоўцы «З калядкамі!» ззаду чытаем ИПЦЗ. 7270 Тир. 100000 экз. Хоць трошачкі, але па-руску.

Узнікае пытанне: дзеля якога ЦК КПСС пішуцца дадзеныя па-руску? А мо для ўласнай бяспамятнасці? І як доўга будзе гэты сервілізм?

**Мікола БУСЕЛ,**
**настаўнік.**

в. Дуброва
Светлагорскага раёна.

## «АРЫ І СЕЙ, МОЙ БРАЦЕ МІЛЫ...»

Вядомая на Беларусі і вёска Ярэмічы, што ў Карэліцкім раёне, колькі дзён назад развіталася з Мікалаем Васільевічам Бразоўскім — знакамітым сваім жыхаром. Пражыў ён не так і мала — восемдзесят гадоў. Прайшоў усё, чым надарыла жыццё — і войны, і бежанства, і партызанку, і мірныя гады, многія з якіх мала чым лягчэй былі за ваенныя. Араў, сеяў, гадаваў сям'ю і... пісаў вершы, п'есы. Літаратурныя творы друкаваліся ў раёнцы, у «Вожыку»; зборнік аднаактовак выдала Міністэрства культуры рэспублікі. Такое спалучэнне селяніна і інтэлігента — з'ява, у пэўным сэнсе фенаменальная, на Беларусі вядома даўно. Можна сказаць, адзнака нашага нацыянальнага менталітэту. Такім быў — яскравы прыклад — «лірнік вясковы» Уладзіслаў Сыракомля, пісьменнік з еўрапейскім іменем. Дарэчы, зямляк дзядзькі Міколы — адзін і той жа мірска-навагрудскі абсяг.

Асаблівасць гэтага тыпу людзей — унутраная скіраванасць на дабро, на стваральную працу. У часе вайны партызанская газета змясціла вельмі каларытны па мове і інтанацыі верш М. Бразоўскага, у якім аўтар, звяртаючыся да беларускага селяніна, пісаў:

**Ары і сей, мой браце мілы,**
**Хоць у няволі родны край,**
**Ары і сей, што маеш сілы,**
**А цаліны не пакідай.**

Ганарыўся Мікалай Васільевіч знаёмствам з Янкам Брылём — сябрам па партызанскіх сцяжынах — і іншымі пісьменнікамі.

Дзівіла і радавала мяне і тое, што ён выпісваў, здаецца, усю беларускую прэсу — газеты, часопісы — ад «Звязды» і «ЛіМа» да «Маладосці» і «Чырвонай змены» ўключна. Быў нястомным чытачом.

Мінулай восенню ён залажыў новы сад. Зямлі ў вяскоўца, вядома, не шмат, дык Мікалай Васільевіч у старым садзе паміж сям-там ужо ўсохлымі дрэвамі пасадзіў маладняк. На змену старому. Хай расце. Добрыя людзі ўспомняць — і сад, і паэта-садавода.

**У. ГНІЛАМЁДАЎ.**



**Калектыў тыднёвіка «Літаратура і мастацтва» выказвае глыбокае спачуванне рэдактару аддзела крытыкі і бібліяграфіі Галіне Каржанеўскай з выпадку напаткаўшага яе вялікага гора — смерці БАЦЬКІ.**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Кастусю Жуку з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці БАЦЬКІ.**

З ПОШТЫ «ЛіМа»

# ЗГАДКІ САМАТУЖНАГА ВЫДАЎЦА

Два гады мінулася з таго пастаўскага літаратурнага аб'яднання, на якім калектыўна адважыліся на рызыкоўны, здавалася б, крок: заняцца выдавецкай дзейнасцю, выпускам альманаха і кніг. Назваць гэты крок рызыкоўным былі немалыя падставы. Нулявы вопыт — толькі ж у Мінску ды Полацку на той час былі першыя спробы такой саматужнай выдавецкай дзейнасці. А тут глыбокая правінцыя, больш чым сціплыя магчымасці мясцовай друкарні... Але адвага наша грунтавалася найперш на тым, што ідэалагічна-цэнзурныя, цэрберскія забароны і брыжы, дзякаваць Богу, на той час ужо апалі. І вось прайшло два гады. За гэты час у Паставах выйшлі два штогадовыя альманахі «Рунь», кніжачкі паэзіі і прозы асобных аўтараў. У вытворчасці знаходзіцца гістарычны нарыс сябра літаратурнага аб'яднання І. Быхаўца «Лынтупы», чарговая кніга альманаха «Рунь». Нараджаюцца новыя планы і задумы. Ды не гэты плён двухгадовай нашай дзейнасці, а патрэба падзяліцца назіраннямі і пэўным ужо вопытам саматужнага выдаўца стала вытокам гэтага артыкула.

Пачаць, напэўна, трэба з расказу пра само пастаўскае літаратурнае аб'яднанне. Яно мае багатую ўжо гісторыю. І хоць не дало беларускай літаратуры слынных імёнаў, мае ў справе згуртавання літаратурных сіл, прапаганды роднага слова немалыя заслугі. Літаратура ўвогуле такая сфера чалавечай дзейнасці, дзе якраз чалавечы індывідуалізм і найбольш выяўны, і найбольш патрэбны. Таму аб'ядноўваць і гуртаваць, «выпрацоўваць агульную лінію» — няўдзячная справа. Добра мы гэта бачым на прыкладзе старэйшага сталічнага сябра, Саюза пісьменнікаў. Узроўні непараўнальныя, але сутнасць прынцыпаў аднолькавая. Таму, з улікам высокага вопыту, і трымаецца наша аб'яднанне толькі дзякуючы поўнай адсутнасці якога-небудзь дыктату, свабодзе выбару і нязмушанасці кожнага сябра — будзь гэта школьнік, які адважыўся вынесці на суд першыя свае вершы, ці чалавек, імя якога ўжо прымільгалася на старонках рэспубліканскага друку. Сёння ў літаратурным аб'яднанні каля дваццаці чалавек: настаўнікі, школьнікі, вайскоўцы, будаўнік і рабочы мясакамбіната, даярка і мастак. Прафесіі вельмі розныя, жыццёвы вопыт таксама, уражальная розніца і, скажам так, паміж літаратурным вопытам і ўмельствам. Але атмасферу роўнасці ў галоўным — служэнні роднаму слову, прыгожаму пісьменству ўдаецца захоўваць. На гэтым і стаім цвёрда.

Цяперашняе літаратурнае аб'яднанне доўгі час працавала пры рэдакцыі раённай газеты «Пастаўскі край». Супрацоўніцтва гэта заключалася ў тым, што рэдакцыя прадастаўляла старонку для твораў пастаўскіх літаратараў (з цягам часу ўсё радзей — адзін раз на квартал), памяшканне для правядзення пасяджэнняў. Вось і ўсё, у астатнім суполка захопленых літаратурай людзей была прадастаўлена сама сабе. Але нядаўна адбыліся пэўныя змены. І справа не толькі ў тым, што кіраўнік літаратурнага аб'яднання пакінуў рэдакцыю. Як людзі нераўнадушныя, актыўныя, з моцным разуменнем нацыянальнага, сябры аб'яднання не могуць заставацца ўбаку ад палітычных падзей, што пачынаюць запаланяць і правінцыю. І тут іх пазіцыя, стаўленне да праблем нацыянальнага адраджэння і нацыянальнага развіцця значна радыкальнейшыя, чым пазіцыя рэдакцыйнага калектыву, які стрыманы звычайнай жыццёвай абставінай — лейцамі тых, хто плаціць грошы.

Таму і адбылося адасабленне літаб'яднання ад гэтай газеты. На правах пярвічнай суполкі літаратурнае аб'яднанне ўвайшло ў Таварыства беларускай мовы. Мае яно сёння і сваю газету «Сумежжа», якую выдае разам з Пастаўскай філіяй сацыял-дэмакратычнай грамады. «Сумежжа» зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі, выходзіць два разы на месяц, што дае магчымасць сябрам літаратурнага аб'яднання рэгулярна бачыць свае творы на яго старонках. Разам з тым за кожным літаратарам пакінута поўная свабода дзеянняў і сувязей (аднабаковых) з «Пастаўскім краем». Не супраць мы і таго, каб у гэтай газеце засталася былая назва літаратурнага аб'яднання «Світанак», на якую рэдакцыя «Пастаўскага краю» заяўляе свае правы. Справа ж не ў назвах. Няхай сёння літаратурнае аб'яднанне пастаўскіх творчых людзей не мае назвы, яно жыве, ідзе да сваіх чытачоў са старонак незалежнай газеты, штогадовых альманахаў і кніг.

Усе мае таварышы ў Паставах адчулі ўрэшце цудоўны смак сапраўднай свабоды і незалежнасці, калі напісанае табой не крэсліцца, не адкладваецца ўбок па палітычных, па кан'юнктурных матывах. Для творцы няма вышэйшай свабоды. І заваёвы гэтай мы ўжо аддаваць нікому не збіраемся.

А цяпер пра кнігавыданне. Бываючы ў Мінску, заўсёды з павагай і нават нейкім унутраным заміраннем гляджу на высозны гмах, дзе знаходзяцца Міністэрства інфармацыі ды ўсе нашы выдавецтвы. Тут нараджаюцца кнігі. Сотні людзей заняты гэтай важнай і вельмі няпростай справай. І нашы захады ў параўнанні з гэтай дзейнасцю здаюцца такім жа бегам мурашоў, як вулічнае жыццё мінчукоў з апошняга паверха згаданага ўжо гмаха. Але той, хто бліжэй знаёмы з выдавецкай дзейнасцю сталічных волатаў, ведае, якія цяжкасці зведваюць сёння ўсе без выключэння выдавецтвы. Даходзіць да таго, што аўтарам, якія чакалі выхаду сваіх кніг, пабачылі ўжо іх карэктуры, выплачваўся ганарар, ад выпуску кніг даводзіцца адмаўляцца. Гэта і зразумела, адбываецца пераход ад сталінскай яшчэ мадэлі, калі дзяржава брала на сябе клопат пра выданне, пра матэрыяльны бок жыцця пісьменніка, але патрабавала за гэта поўнага кантролю над яго творчасцю, да мадэлі, калі сам пісьменнік павінен клапаціцца не толькі пра тое, як напісаць, але і пра тое, як выдаць ды пры гэтым яшчэ атрымаць прыбытак, каб пракарміць сям'ю.

Са свайго правінцыйнага далёка мы бачылі і бачым усе гэтыя высілкі. Добра бачым і тое, што ранейшую выдавецкую сістэму раз'ядае ржа кланавасці, узаемазарукі, іншых заганаў нашага раз'ятранага грамадства. Таму і лічым абраны шлях адзінкава магчымым у цяперашніх абставінах. Ён дае плён, творы пастаўскіх літаратараў даходзяць да чытача.

Праблема кнігавыдання ў правінцыі распадаецца, калі можна так сказаць, на тры састаўныя часткі. Першае і самае галоўнае, безумоўна, грошы. Мы ў Паставах не маем таго асяродку аматараў і прыхільнікаў паэзіі, які здольны нарадзіць мецэнатаў, хаця на Беларусі такія прыклады ўжо ёсць. Таму сродкі збіраюцца з саміх аўтараў з умоваю іх вяртання пры паспяховым фінансавым завяршэнні выдання. І трэба сказаць, што выдаткі вяртаюцца. Ну а прыбытак мясцовым літаратарам даводзіцца шукаць крышачку ў іншым, у магчымасці выказацца, пабачыць свае творы на паліцы кнігарняў. Сёння рэдка ад каго можна пачуць, што літаратурнае аб'яднанне занялося не сваёй справай, што патрэбы ў выдавецкай дзейнасці няма, і таму ёсць спадзяванне: з цягам часу знойдуцца, павінны знайсціся, сярод і неафіцыйных, і афіцыйных структур тыя людзі, якія змогуць аказаць падтрымку правінцыйным выдаўцам беларускай кнігі. Падставы для такога аптымізму дае сама гісторыя нашай зямлі. Вось і нядаўна сутыкнуўся з такім фактам: у суседнім Глыбокім выдаваліся на пачатку нашага стагоддзя кнігі. І фундатарамі гэтай добрай справы былі нераўнадушныя, зацікаўленыя ў росквіце роднай зямлі людзі.

Другой праблемай на пачатку нашай дзейнасці была тэхнічная. Друкаваць кнігі няздольнае не толькі абсталяванне раённых друкарань, але і людзі ў друкарнях з цяжкасцю ўспрымаюць новую справу. Зварот жа на буйныя паліграфічныя прадпрыемствы азначае павелічэнне выдаткаў у некалькі разоў. Вось чаму сёння набор і друк нашых кніг вядзецца ў Паставах, вокладкі вырабляюцца ў Маладзечне ці Віцебску, а брашуроўку выданняў робяць самі пастаўскія літаратары, успомніўшы, што ёсць у нашым народзе такое прыгожае слова «талака».

Выйшла ў свет кніга. І калі пастаўскі чытач можа яе набыць без перашкод, для зацікаўленага чытача ў іншых куточках Беларусі гэта становіцца праблемай. Мы гатовыя частку сваіх накладаў аддаваць для распаўсюджвання па рэспубліцы. Але... Але зноў жа прыватная ініцыятыва, саматужнае кнігавыданне сутыкаецца тут з сістэмай старых часоў, калі зацікаўленых чыноўнікаў у кнігагандлі адшукаць немагчыма, калі адразу ж узнікае безліч фінансавых і іншых праблем. Пакуль што дапамагае нам несці свае кнігі да беларускага чытача толькі Таварыства беларускай мовы, нешматлікія кіёскі якога сёння — нібы астраўкі беларускамоўнасці ў бязмежжы «братняй» мовы.

Відаць, не трэба сёння станавіцца ў позу занадта сціплых людзей, сябры пастаўскага літаратурнага аб'яднання добра разумеюць, што іх захопленасць паэзіяй, выдавецкая дзейнасць — гэта не толькі ўцеха душы. Гэта яшчэ вельмі істотна і значна ў рэчышчы ўсяго працэсу нацыянальнага адраджэння. Гэта адна з тых ручаін, без якіх не атрымацца магутнай і ўсеабдымнай плыні. Натуральна, што пільна сочым мы за тым, як адгукаецца беларускі друк на нашу дзейнасць. І ўдзячны «ЛіМу», «Нашаму слову», «Голасу Радзімы», іншым выданням, у якіх ухвальна сустрэтыя першыя крокі пастаўчан. Падтрымка гэтая неабходна яшчэ і таму, што «няма прарока ў сваёй айчыне», і выдавецкая дзейнасць, пастаянная работа сяброў літаб'яднання ў працоўных калектывах, сярод моладзі не заўсёды атрымлівае не тое што падтрымку, а простае адабрэнне мясцовага кіраўніцтва. Толькі адзін прыклад. У мастацкім творы адной з выдадзеных літаб'яднаннем кніг пазнаў сябе галава раёна, некалі першы сакратар райкома, а цяпер старшыня Савета. Вобраз быў створаны не ў пастаральных традыцыях. І хоць ніякіх канкрэтных «прывязак» вобраза і асобы не было, асоба вельмі закрыўдавала. А што гэта такое, вельмі хутка адчулі сябры літаб'яднання. Усчаўся ціск не толькі на рэдакцыю газеты, справамі мясцовых «пісак» зацікавілася падатковая інспекцыя. А як жа, кніжачкі то свае яны прадаюць, значыць, займаюцца прадпрымальніцкай дзейнасцю, можа, шалёныя прыбыткі ўтойваюць ад дзяржавы. Магчыма, гэта і смешна, але ўсё-такі больш скрушна. Але іншага чакаць ад цяперашніх мясцовых (ды і не толькі мясцовых) улад не даводзіцца.

Сёння ўсё здаровае, нацыянальнае, скіраванае ў будучыню нашага народа альбо спакваля прыгнятаецца і ўціскаецца, альбо проста кінута на волю лёсу. Іншага і нельга чакаць ад тых, хто ў кожным сне бачыць «светлы» момант вяртання ў «союз нерушимый». Але час ужо не той. І як бы ні паварочваліся ў будучым колы палітычнага млына — людзі ўжо не ранейшыя. Яны ўжо выправіліся па шляху разняволення.

**Алесь КАСЦЕНЬ,**
**старшыня пастаўскага літаратурнага аб'яднання.**

**Марцін КОЎЗКІ**

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

**Шчасце для масквічоў, што толькі семдзесят гадоў праіснавала савецкая ўлада: гэта ж колькі спатрэбілася б крамлёўскіх муроў для відных дзеячаў партыі і ўрада, а колькі маўзалеяў — для правадыроў і карыфеяў!**

●

**Я пайшоў па крупы і хлеб, мне сказалі не ў той хлеў, не малы, мусіш знаць сам агітпункт свой — універсам.**

●

**Ці не прасцей тлумачыць узлёты некаторых акрабатаў хібамі гравітацыі?**

●

**Ёсць такая зямля Ньюфаўндленд, дзе сабака любы ньюфаўндленд, і такая мясціна заморская, дзе любая скаціна ангорская. А з нязнатным паходжаннем як, што заціх, мой нязграбны дварняк, ці ад Пухавічаў да Оршы ты сярод дварнякоў найгоршы? Хто, скажы, з элітарных парод будзе жыць у кутку без выгод?**

●

**Прыкметы. Калі бутэлькі ў пункце прыёму шклатары бяруць, не здавайце — будзе павышэнне цэн на посуд. Калі не бяруць — усё ў парадку, абстаноўка стабілізуецца, бутэлькі ж даражэюць, як грошы дзешавеюць.**

●

**Шуміць і хвалюецца стадыён, які ўжо месяц гандлюе ён. Змяніў стадыён «мэнаў» — спартсменаў на бізнесменаў. Страчае новых насельнікаў транспарант «Прывітанне ўдзельнікам!»**

●

**На поле гісторыі абавязкова прыходзяць свае дажынкі — на суд выклікаюць Кручковых і скідваюць Дзяржынскіх. Хісткасць п'едэсталаў — гэта ў гісторыі стала. На жаль, тыя дажынкі скупыя, як слязінкі.**

●

**З англійскай. «Як прайшоў з'езд?» — спыталі ў Браўна. «Выдатна, — адказаў ён, — вадзілі ў саўну».**

●

**— Чуў, Апанас, у Хаўронні разбіліся дзвер і зяць? — Дваіх пахаваць сягоння — дзе ж гэта грошай узяць, трунку, набраць наедку, няшчасная наша суседка.**

●

**Гордасць: дар, меншы за рэ, савецкі жабрак не бярэ!**

●

**То не жарт, не анекдот, не плёткі, па тэлебачанні спаборнічалі школьныя калектывы, дзяўчаты вызначалі вартасці проціназачаткавых сродкаў, хлапчукі — надзейнасць прэзерватываў. Колькі праблем з гэтымі акселератамі дзябёлымі, трэба раней пачынаць палавое выхаванне, але барані, Божа, нашу школу ад такіх тэлевізійных кампаній.**

●

**Найвышэйшы трыумф дэмакратыі: былыя члены палітбюро на трыбуне маўзалея з партрэтамі прэзідэнта Расіі.**

●

**Што казалі, як Пазта хавалі? На якія Пасады яго вылучалі.**


ЛіМ

Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах**
**Друкарня «Беларускі Дом друку».**



**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

**Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-25-25; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Юрась ЗАЛОСКА — 33-19-85; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт Уладзімір ПАНАДА — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.**





**Нумар падпісаны ў друк 14.1.93 у 18.10**





Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Тыраж 15.000. М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12